**BIELARUS**

Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION. Inc.
Subscription $10.00 yearly.

„БЕЛАРУС" — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія.
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
Выпіска зь перасылкаю — 10.00 дал. на год.
Незамоўленыя рукапісы назад не зьвяртаюцца.
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам аўтара, могуць выражаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# 75-Я ЎГОДКІ ЎЛАДЗІМЕРА ДУБОЎКІ

## І ІХНЫ ПАЛІТЫЧНЫ АСПЭКТ

(Заканчэньне зь 1-ае бачыны)

вы ўгодкі ў „Сельской газете" за 15 ліпеня пісаў: **„Пасьля даўгога перапынку Дубоўка ў 1958 годзе ўзноў актыўна ўлучыўся ў літаратурнае жыцьцё, аднавіў свой літаратурны голас".**

З паданага, калі бліжэй ня ведаць пра гэнае рэпрэсіяваньне й рэгабілітацыю Ўладзімера Дубоўкі, сяньня ніяк, асабліва маладому пакаленьню нельга ўявіць, якімі-ж у запраўднасьці былі гэныя „падарожжы па краіне" й гэны даўгі перапынак у творчасьці паэты ды чаму якраз усё гэта выклікала той перапынак у ягонай творчасьці. Выпадак з рэпрэсіяваньнем і рэгабілітацыяй Уладзімера Дубоўкі асабліва й найбольш характэрны ў ліку падобных выпадкаў зь іншымі беларускімі пісьменьнікамі. Ён паказвае, што ў сяньняшняй палітычнай сытуацыі пануе тэндэнцыя прамоўчваць несправядлівыя рэпрэсіі над беларускімі пісьменьнікамі ў 30-х гадох, аднак пры ацэне гэтых пісьменьнікаў навет на іхныя круглыя ўгодкі рэпрэсіі гэтыя не забываюцца.

Згаданыя Алег Лойка й Юльян Пшыркоў у сваім артыкуле „Дойліды новай культуры", надрукаваным у другім выпуску міжвузаўскага зборніка „Беларуская літаратура і літаратуразнаўства" летась, апрача чыста літаратурных дасягненьняў і заслугаў Уладзімера Дубоўкі, падчыркнулі ягоныя дасягненьні й заслугі ў галіне культуры літаратурнае мовы. Уладзімер Дубоўка, побач з Кузьмом Чорным, названы ў гэным арыткуле дойлідам новае культуры ў галіне моватворства.

Аднак і гэтая Дубоўкава заслуга, хоць і бясспрэчная, сяньня ўжо ня згучная афіцыйнай палітычнай лініі ў дачыненьні да беларускай культуры. Дык і гэтая заслуга не магла быць афіцыйна адзначаная на сёлетнія Дубоўкавы ўгодкі. У БССР сталася зьявай традыцыйнай, што заслужаныя дзеячы літаратуры, мастацтва, культуры й навукі на свае ўгодкі ўзнагароджваюцца рознымі пачэснымі годнасьцямі, ардэнамі й мэдалямі, а ўжо ў найгоршым выпадку — ганаровымі граматамі або проста граматамі Вярхоўнага Савету БССР. Уладзімер Дубоўка на свае ўгодкі ня быў ушанаваны навет найніжэйшай узнагародай — граматай Вярхоўнага Савету БССР! Дый наагул за ўсю сваю выдатную дзейнасьць для беларускай літаратуры й культуры як да ягонага рэпрэсіяваньня, гэтак і пасьля рэгабілітацыі ня быў ён узнагароджаны наагул за выняткам дзяржаўнай прэміі БССР імя Янкі Купалы за згаданы ягоны зборнік паэзіі „Палеская рапсодыя".

Але тым часам, калі 75-я ўгодкі Ўладзімера Дубоўкі былі афіцыйнымі дзейнікамі зыгнараваныя й прамоўчаныя, угодкі гэтыя былі нязвычайна цёпла й прыязна адзначаныя неафіцыйна, прыватна й навет інтымна ў друку пісьменьніцкай грамадзкасьцяй. Вось колькі зь вялікага мноства прыкладаў гэтае цікавае й бадайшто бяспрэцэдэнтавае сёлета зьявы. Вось якую ацэну далі Ўладзімеру Дубоўку ў сваім угодкавым артыкуле ў газэце „Літаратура і Мастацтва" Алег Лойка й Юльян Пшыркоў:

**„Выдтны паэта й празаік, дасьледчык літаратуры, роднай мовы і вуснай народнай творчасьці, таленавіты перакладчык, непераўзыйдзены казачнік, мудры й клапатлівы выхавацель падрастаючых пакаленьняў . . . Уладзімер Дубоўка нарадзіўся паэтам, мстаком з сэрцам, шырока адкрытым сьвету, людзям, новай эпосе, усяму ўзвышанаму й прыгожаму на зямлі".**

Ня менш энтузіястычна пра творчасьць Уладзімера Дубоўкі выказаўся ў сваім угодкавым артыкуле ў газэце „Чырвоная зьмена" за 15 ліпеня сёлета малады паэта Мікола Фядзюковіч:

**„Мы любім творы Дубоўкі за іх глыбокую й прынікнёную ідэйнасьць, багатую й яркую паэтычнасьць. Яго лірычны гэрой, які ўсё больш поўна й дакладна раскрываўся перад намі па меры духоўнага разьвіцьця аўтара і яго мастацкага майстэрства, узвышаецца сяньня на ўвесь свой чалавечы й грамадзянскі рост. Яшчэ далёка й доўга яму йсьці, на яго раўняцца . . ."**

А вось словы маладога паэты Анатоля Шайні ў ягоным артыкуле на Дубоўкавы ўгодкі ў ліпенскім нумары часапісу „Беларусь":

**„Паэзія старэйшага беларускага песьняра Ўладзімера Дубоўкі — цэлы сьвет. Радкі яго вершаў то пераліваюцца вясновымі ручаінамі, то зьвіняць галасамі птушак, то гучаць задуменным гоманам беларускага лесу, то лашчаць слых матчынай казкай. Так хараша яны ўвабралі ў сябе гукі й хварбы бацькаўшчыны . . ."**

Пад адрысам ніводнага із сёлетніх юбіляраў ня былі сказаныя гэткія ўзвышаныя словы захапленьня, прызнаньня й любасьці. Дый ніводзін із сёлетніх юбіляраў ня быў гэтак высака ацэнены пісьменьніцкай грамадзкасьцяй, як Уладзімер Дубоўка.

На фоне ўсяе ўгодкавае палітыкі асаблівую вымову мае наступны факт. Сёлета 22 травеня адбыўся ў Менску вялікі ўрачысты вечар, прысьвечаны 70-цігодзьдзю ад дня нараджэньня расейскага савецкага пісьменьніка Міхаіла Шолахава. У вечары ўзялі афіцыйны ўдзел найвышэйшыя прадстаўнікі партыі і ўраду БССР на чале зь першым сакратаром ЦК КПБ П. Машэравам і старшынём Савету Міністраў БССР Ц. Кісялёвам. Беларускі пэрыядычны друк быў перапоўнены артыкуламі пра творчасьць расейскага юбіляра. Адзін толькі часапіс „Полымя" ў сваім чырвенскім нумары надрукаваў аж чатыры артыкулы беларускіх пісьменьнікаў, прысьвечаныя юбіляру. Пэўне-ж, Міхаіл Шолахаў пісьменьнік і заслужаны для расейскай савецкай літаратуры. Але ці заслугі каго-б там ні было для **расейскае-савецкае** літаратуры можна раўнаваць да вялізарных заслугаў Уладзімера Дубоўкі для літаратуры **беларускай?**

**Ст. Станкевіч**

# ДАКЛАД УЛАДЫКІ СІПОВІЧА ДЛЯ МОЛАДЗІ

У сыботу 11-га кастрычніка на просьбу Аддзелу Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі ў Нью-Джэрзі Япіскап Часлаў Сіповіч зрабіў даклад аб праблемах узгадаваньня сучаснае моладзі. Даклад быў у ангельскай мове. Паслухаць яго прыйшла моладзь і шмат дарослых. Дастойнага дакладчыка прадставіў прысутным старшыня Галоўнай Управы Арганізацыі Белоруска - Амэрыканскай Моладзі Юрка Азарка.

Цікавым спосабам пачаў свой даклад Уладыка Сіповіч. Паказваючы тры жалуды, Уладыка, казаў, што ў іх крыецца сакрэт жыцьця. Зь іх вырасьце пры адпаведных абставінах магутны дуб. Гэтак і з малога дзіцяці пры адпаведным узгадаваньні вырасьце моцная адзінка — чалавек. Фармаваньне характару маладога чалавека ўзьдзейваньнем на яго сям'і, школы й царквы — важнае заданьне грамадзтва. Сяньня, на жаль, не заўсёды з добрымі вынікамі фактарам узгадаваньня пачала рабіцца тэлевізія.

Для нас Беларусаў важна прышчапіць нашай моладзі веды, любасьць і пашану да беларускае мінуўшчыны ды пачуцьцё гордасьці быць Беларусам. Згаданыя мамэнты ўзгадаваньня моладзі — казаў Уладыка — і былі аднымі зь мяркаваньняў, якімі мы кіраваліся пры адчыненьні Беларускай Бібліятэкі й Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане. На заканчэньне дакладчык сьцьвердзіў факт росту маладых сілаў сьведамай беларускай інтэлігенцыі на Бацькаўшчыне й за ейнымі межамі, што ёсьць найлепшай зарукай для нашае будучыні.

На пытаньні прысутных Уладыка Сіповіч даваў падрабязныя адказы пра зборы Бібліятэкі й музэю, рэдкія экспанаты, наведвальнікаў ды пра Журнал Беларусаведных Студыяў, што выдаецца ў Лёндане ў ангельскай мове. Дырэктар мясцовай Сыботняй Школы Р. В. выказаў сваё глыбокае задавальненьне, што Ўладыка Сіповіч гэтак трапна закрануў праблему, якую стараюцца разьвязаць настаўнікі школы — узгадавць моцнае й гордае беларускае пакаленьне. Кава й пячыва, падрыхтаваныя сяброўкамі АБАМ, далейшыя пытаньні й адказы, сяброўскія гутаркі Ўладыкі із знаёмымі й зямлякамі з Наддзьвіньня закончылі прыемную й карысную імпрэзу.

**Удзельнік імпрэзы**

# ДАСЬЛЕДВАНЬНІ ПАДЗЕЯЎ НА СЛУЧЧЫНЕ

Паступова, хоць павольна, аднак сыстэматычна й пазытыўна, гэтая бачына беларускае нацыянальнае гісторыі ўзбагачваецца дакумантальным і мэмарыяльным матарыялам, новымі фактамі, абагульненьнем падзеяў і пачынае займаць у нашай навейшай гісторыі адно з найважнейшых месцаў. Бадай недалёкі час, калі Слуцкі Фронт Беларускай Народнай Рэспублікі атрымае асьвятленьне ў большай дасьледніцка - манаграфічнай працы, якая падсумуе й прааналізуе ўсё дасюль ведамае пра Слуцкі чын ды дасьць ацэну падзеяў Случчыны на шляху нацыянальнага ўздыму 20-30-ых гадоў у беларускім руху як у БССР, гэтак і ў Заходняй Беларусі.

На бачынах „Беларуса" ціраз зьяўляліся весткі, што дакумантацыя Слуцкага Фронту ўсьцяж павялічваецца. І гэта ня пераўвялічэньне. Сяньня бібліяграфія пра Слуцкія падзеі налічвае колькі сотняў пазыцыяў і можа быць групованая ў гэткія разьдзелы: архіўныя матарыялы — у Францыі, Швэцыі, двух архівах ЗША ды архівах Аўстрыі. Дакумантальныя матарыялы, сучасныя падзеям на Случчыне — гэта артыкулы, зацемкі, паведамленьні розных агенцтваў у газэтах і часапісах; мэмуарная літаратура, дасьледніцкія працы манаграфічнага характару, як прыкладам, праца Пр. Каваля „Слуцкі Фронт — кароткі гістарычны нарыс Слуцкага ўздыму, 1917 — 1921", Лёндан 1961 матарыялы аналітычнага профілю ў беларускіх нацыянальных і савецкіх часапісах ды мастацкая літаратура. „Удастоіліся" падзеі Случчыны папасьці і ў Беларускую Савецкую Энцыклапэдыю пад загалоўкам „Слуцкі мяцеж" з аднэй толькі бібліяграфічнай зноскай. Дзеля паўнаты літаратуры пра Слуцкія падзеі варта прыгадаць і дзясяткі артыкулаў і фэльетонаў у „Голасе Радзімы".

Мэтай гэтага артыкулу аззнаёміць беларускага чытача зь некаторымі газэтнымі матарыяламі пары 1919-21 гадоў — матарыяламі, дзе згадваецца пра падзеі на Случчыне.

Аднак перад гэтым варта хоць у некалькіх сказах прыпомніць даведзеныя выходныя пазыцыі Слуцкага збройнага змаганьня 1920 году. А гэта наступныя:

— У беларускай гісторыі сяньня прынята й дакумантальна даведзена, што падзеі на Случчыне былі Слуцкім Фронтам Беларускае Народнае Рэспублікі.

— На Случчыне 1920 году быў масавы народны ўздым за ідэалы БНР.

— Падзеі на Случчыне змусілі бальшавікоў кінуць у змаганьне лепшыя сілы Чырвонае арміі.

— Случчакі беспасярэдня й праз Урад БНР шукалі падтрымкі на Захадзе.

— Слуцкі збройны чын запачаткаваў новую фазу ў адраджэньні беларускае дзяржаўнасьці.

— Збройнае змаганьне было арганізаванае, плянавае і пад чыста нацыянальным сьцягам.

А цяпер вось кароценькая нізка матарыялаў, якія датычацца да падзеяў на Случчыне 1920 году. Газэта „Беларускае Слова", выдаваная ў Горадні, у 1920-21 гадох зьмясьціла вельмі шмат матарыялаў пра Слуцкія падзеі, а ў лістападзе й сьнежані падала гэткія вестці:

„15 і 16 лістапада ў Слуцку адбыўся зьезд прадстаўнікоў ад 15 воласьцяў і мястэчак у ліку 127 чалавек і была выбраная Слуцкая Беларуская Рада. Улада знаходзіцца ў руках беларускага камісара, які вядзе сваю дзейнасьць па даручэньню Ўраду Беларускае Народнае Рэспублікі" . . .

Гэтая-ж газэта ў сьнежні 1920 году пісала:

„Зь Ліды надыйшла да нас вестка: ў раёне Семежава адбываюцца апошнімі днямі крывавыя баі паміж беларускімі аддзеламі і бальшавіцкімі. Частка беларускіх аддзелаў разьбіта й перайшла польска-бальшавіцкую граніцу".

Падобныя паведамленьні знаходзім у нумарох гэтае газэты за 12, 15, 18, 20 і 22 сьнежня 1920 году.

А вось у газэце Soviet Russia, якая выдавалася ў Нью Ёрку, у аглядзе важнейшых падзеяў за 1920 год пісала, што ў лістападзе зьлiквідаваныя збройныя „банды" ў заходніх вобласьцях Савецкае Расеі ды што Польшча будзе паўстрымоўвацца ад падтрыманьня збройнае акцыі Балаховіча й Пятлюры. У сьнежні 1921 году Soviet Russia пісала, што савецкі ўрад паведаміў ангельскі ўрад, што „банды", якія апэравалі на тэрыторыі Беларусі, зьліквідаваныя.

А вось камуністычная газэта „Жизнь Национальностей" за верасень 1921 году апісвала падзеі гэтак:

„Трэба сканстатаваць, што контрэвалюцыя ў Беларусі пад прыкрыўкай бандытызму — зьніштожаная. Случчына й Ігуменшчына зьнятыя з асаднага становішча. Аднак-жа мы мусім разумець, што бандыты не маглі-б трымацца без падтрымкі мясцовага жыхарства. І таму, прыкладам, Ігуменскай Палітычнай Камісіяй пастаноўлена дзеля змаганьня з бандытызмам вёску Французкая Грэбля, якая дапамагала бандытам, высяліць поўнасьцяй паза межы Беларусі, а ўсю маемасьць вёскі канфіскаваць".

У красавіку 1921 году згаданая вышэй газэта Soviet Russia у нумары за 30 красавіка, паводля камунікату Тэлеграфнага Агенцтва Савецкае Расеі ў Маскве паведамляла, што: польскі друк аказвае падтрымку антысавецкім беларускім змоўнікам у іхных ходаньнях супраць Савецкае Расеі, што польскія газэты надрукавалі адозву Антанты, што быццам адозва гэтая выходзіць ад беларускага народу й была падпісаная 35 тысячамі людзей, ды што адозва гэтая шырака распаўсюджваецца й атрымлівае незаслужана вялікую ўвагу.

У тым-жа 1921 годзе ў тэй-жа ньюёркаўскай газэце Soviet Russia падаюцца словы А. Чарвякова, які, адчыняючы трэйцюю сэсію ЦВК Беларусі, падчыркнуў, што ваеннае змаганьне на франтох Беларусі скончылася й Беларусь узыходзіць на шлях эканамічнага змаганьня.

Цікавыя выказваньні знаходзяцца і ў расейска-французкай газэце „Новая Расея" за студзень-люты 1921 году. Газэта пісала, што на ўсходзе зарысоўваецца новая палітычная адзінка — Беларуская Дзяржава, што дзяржава гэтая апошнім часам змагалася ў Слуцку й Мазыры ды даводзіла, што яна ня хоча быць улучанай у склад Савецкае Расеі.

Гэта вось некалькі выказваньняў пра падзеі на Случчыне 1920 году, знойдзеных за мінулыя колькі месяцаў. Як было зазначана на пачатку гэтага артыкулу, пошукі гэтыя сыстэматычна працягваюцца й бязумоўна шырака ўдакумантуюць Слуцкі Фронт Беларускае Народнае Рэспублікі.

**В. Зубкоўскі**

# ПАНІХІДА ПА БЕЛАРУСКІХ ГЭРОЯХ



У нядзелю 5 кастрычніка сёлета на просьбу мясцовага Аддзелу Задзіночаньня Беларуска--Амэрыканскіх Вэтэранаў, Яго Эксцэленцыя Біскуп Часлаў Сіповіч, Апостальскі Візытатар для Беларусаў каталікоў, Паніхіду па ўсіх тых, што змагаліся й аддалі сваё жыцьцё за Бацькаўшчыну. Паніхіда была адслужаная перад Помнікам Беларускім Гэроям на Беларускім Магільніку ў Іст Брансьвіку, Нью Джэрзі.

Перад Паніхідай да Помніка прымашыраваў Аддзел ЗБАВ із сьцягамі ды быў зложаны вянок ад мясцовага грамадзтва. Пасьля зложэньня вянка, да прысутных, якіх сабралася ладная колькасьць, прамовіў у кароткіх, але гарачых словах Уладыка Часлаў.

Прыхожа й хвалююча сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Філярэта Родзькі. Асаблівае ўражаньне ў прысутных выклікааў мамэнт, калі Ўладыка падчас сьпяваньня „Вечная памяць" стаў на каленьні й злажыў перад Помнікам глыбокі паклон. Урачыстая Паніхіда закончылася прапяяньнем „Сьпі пад курганам" і нашага рэлігійнага гімну „Магутны Божа".

Пасьля Паніхіды шматлікія прысутныя паехалі ў Царкоўна-Грамадзкі Цэнтр у Гайлэнд Парку, дзе Аддзелам ЗБАВ у гонар Дастойнага Гасьця быў наладжаны пачастунак-банкет. Калі прысутныя занялі месца за сталамі, каманьдзер Аддзелу ЗБАВ капт. С. Гутырчык папрасіў Уладыку пабагаславіць сталы, а ўсімі бяседнікамі была прапяяная малітва „Ойча наш".

Пазьней капт. С. Гутырчык прадставіў Уладыку старшыняў мясцовых арганізацыяў і некаторых гасьцей. Тады пачаліся прамовы. Прамаўлялі наступныя асобы: сп. П. Кажура ад Аддзелу ЗБАВ, В. С. ад Сэктару Рады БНР у Нью Джэрзі, сп. Ю. Адамцэвіч ад польськіх і вугорскіх арганізацыяў ды. сп. Уладзімер Русак зь Нью Ёрку, які хоць і заявіў, што прамаўляе вылучна ад свайго імя, але прамова ягоная найбольш прыпала да сэрца прысутным. Тады забраў голас сп. Янка Сокал і ўручыў Уладыку каштоўны падарунак для Беларускага Музэю ў Лёндане — калекцыю залатых манэтаў Вялікага Княства Літоўскага.

На заканчэньне прамаўляў Уладыка, дзякуючы за зычлівае прыняцьцё. Прысутныя прапяялі „Богародзіцца Дзева радуйся", а пасьля „Многае лета" для Ўладыкі. Далей на просьбу Ўладыкі ўся заля прапяяла „Пагоню" на словы Максіма Багдановіча.

**Адзін з прысутных**

# ЖАНОЦКАЯ СТАРОНКА

## ТРЫПУТНІК

Пераглядаючы пяты нумар часапісу „Полымя" за 1968 год, наткнулася я на верш Ніла Гілевіча „Лісьце трыпутніка". Верш гэты зрабіў на мяне глыбокае ўражаньне, убіўся ў галаву й не даваў супакою. Простыя ягоныя радкі замацаваліся ў памяці, гучэлі бесьперапынку, хвалявалі.

Іду раніцою на працу, на недагледжаным траўніку глядзіць на мяне, быццам з дакорам раней незаўважаны трыпутнік, а ў вушах гучаць словы ўжо, праўда, ня Гілевічавага вершу, а іншага сучаснага беларускага паэты Васіля Віткі: „А ён расьце, трыпутнік, а ён цьвіце, пакутнік", словы, якія Ніл Гілевіч узяў за эпіграф да свайго вершу.

І здаецца мне, што я ведаю адказ, чаму якраз гэты верш, чаму гэты трыпутнік так глыбака ўрэзаўся ў памяць і сэрца.

Вялікая праўда заўсёды вельмі простая, а праўда гэтая ў тым, што, не зважаючы на зьдзекі й паняверкі, на таптаньне й калечаньне людзкімі нагамі, трыпутнік выжыў, ды ня толькі выжыў, а й зацьвіў, „бо ў ім жыве нячуваная моц і сіла самой зямлі".

Пазнаёмімся з урыўкамі верша Ніла Гілевіча:

### ЛІСЬЦЕ ТРЫПУТНІКА

Патаптанае,
Здратаванае
І абцасамі, і капытамі,
Пакалечанае,
Зьняваечанае
І машынамі й калясьмі,
Шэрым пылам удзень спавітае,
Невядома чым ноччу ўмытае —
Ці то росамі,
Ці сьлязьмі, —
Дзе такому раўняцца зь іншымі—
Буйнацьветнымі,
Ярка-пышнымі
. . . . . . . . . . . . . . .
Ды хоць вечна яно ўшчуванае,
Як сіроты ў чужой сям'і, —
**Моц у ім жыве нячуваная —**
**Моц і сіла самой зямлі.**
Гэта ведалі добра продкі
І цанілі трыпутнік некалі:
Скрозь па вёсках
Дзядзькі і цёткі
Карысталіся ім, як лекамі.
. . . . . . . . . . . . . . .
А было яшчэ так:
Дзяўчаты
Перад сном,
Нібы птушкі пудкія,
Вылятані нячутна з хаты
Да нагледжаных днём
Трыпутнікаў
І зусім не дзеля забавы
(Дыктаваў рытуал абраднасьці)
Адрывалі лісток зубамі
І дамоў яго несьлі
У радасьці,
Пад падушку сабе лажылі . . .
Пра свой лёс яны варажылі.
. . . . . . . . . . . . . . .

Усё-ж ня Ніл Гілевіч быў першым у мастацкім афармленьні вобразу трыпутніка. Пяршынство належыць Васілю Вітку, які дўно, яшчэ ў 1946 годзе напісаў малы вершык пад зазовам „Трыпутнік". Там ёсьць гэтыя радкі:

Яго нямала топча ног —
І босых і абутых.
Другі-б ужо змарнеў, зьнямог
У крыўдах і пакутах,
**А ён расьце, трыпутнік,**
**А ён цьвіце, пакутнік.**

Відаць, доўга не давала супакою Ніл Гілевічу думка, выказаная ў гэтым вершы, аж вырасла ў цудоўную пэрлу нашае сучаснае паэзіі, а выдадзены сёлета зборнік сваіх выбраных вершаў затытулаваў ён назовам гэтага вершу: — „Лісьце трыпутніку".

Я дакладна ня ведаю, пра што канкрэтна думаў, што хацеў сказаць паэта ў вершы „Лісьце трыпутніку", і я ўдзячная яму, што адказ на гэтае пытаньне ён пакінуў чытачу, у тым ліку й мне.

Можа здавацца, што трыпутнік сымбалізуе рэлігію, веру нашых продкаў, якая сяньня топчацца й зьневажаецца ў паняволенай Бацькаўшчыне. Іншы раз можа здавацца трыпутнік свабодай у найшырэйшым значаньні гэтага слова „шэрым пылам спавітае" на Бацькаўшчыне. Ці мо гэта нашая спрадвечная народная культура — нашыя песьні, абрады й звычаі, сяньня пагарджаныя й выпіханыя з народнага ўжываньня.

Але найбольш настырліва напрошваецца прыраўнаньне трыпутніку да нашай роднай беларускай мовы, на працягу стагодзьдзяў таптанай і калечанай, якая, аднак, мае цудоўную якасьць аздараўленьня, ператрываньня ўсіх нягодаў, няўміручасьць — „нячуваную моц і сілу самой зямлі" беларускай.

Як ні дзіўна, але толькі сёлета заўважыла я, як цьвіў трыпутнік: далікатныя белыя сьцяжкі — пруцікі, нанізаныя ў каласок, гойдаліся на ветры, а чысьценькія пасьля начнога дажджу зялёныя лісточкі лапушыліся на траўніку. Трыпутнік цьвіў, і мне неяк радасна зрабілася на сэрцы, а рука мэханічна сарвала мокры халодны лісток.

Цікава, які-ж сон прысьніцца не маладой ужо дзяўчыне, а сталай векам настаўніцы, калі палажыць гэты лісток пад падушку? — думалася мне.

І ўзапраўды прысьніўся мне дзіўны сон.

У вялікім перапоўненым саборы сьв. Кірылы Тураўскага у Нью Ёрку йшла Божая Служба. Малебнам адзначалася заканчэньне школьнага году Беларускае Дапаўняльнае Школы. Усе вучні ў нацыянальных вопратках выстраіліся парамі, за імі настаўнікі, бацькі, прыяцелі й госьці. Плыла ўрачыстая й радасная падзяка Усявышняму, што вось ужо на працягу многіх год гэтак удала праводзіцца супольная праца дзяцей, бацькоў, настаўнікаў, усяго грамадзтва.

Залю пасьля малебну запаўняюць тыя-ж людзі, шмат моладзі зарганізаванай ў сваёй арганізацыі, пераважна выпускнікі беларускае школы. Вучні выступаюць з дэклямацыямі ўзорнай беларускай мовай, разрумяненыя ад хваляваньняў, радасныя ад пахвалаў.

Пад канец выступіла настаўніца беларускае мовы й сказала: — Я вам, дарагія вучні абяцала пры нагодзе прачытаць верш, які мне найбольш падабаецца, а нагода гэтая сяньня. Верш гэты — пра расьліну — трыпутнік, што расьце пры найгоршых абставінах, а навет і цьвіце.

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

## СУСТРЭЧА З ОЛЬГАЙ КОРБУТ



Л. Яцкевіч з трэнэрам Ольгі Р. Кнышом

Нашая сустрэча з Ольгай Корбут была для мяне неспадзеўкай. Я паехала яе спатыкаць разам із сп. М. Ніканам і сп-вам Корбутамі на лётнішча ў Мэльбурне. Але там не ўдалося яе спаткаць з прычыны жыдоўскай дэманстрацыі. Але паехалі у гатэль, дзе беларускія савецкія гімнасткі затрымаліся. І там спаткаліся з Ольгай Корбут і трохі пагаварылі.

Затое ў сп-ва Корбутаў мы пазнаёміліся зь імі вельмі добра. Вельмі прыемныя й мілыя, сьціплыя дзьве беларускія дзяўчынкі, Ольга з Горадні й Ліда з Баранавіч, заслужаныя спартсмэнкі.

Ольга была вельмі задаволеная й шчасьлівая сярод нас, яна сьпявала разам зь Лідай беларускія песьні. што некаторых з нас навет зьдзівіла. Гаварыла пераважна парасейску, устаўляючы беларускія словы. У гатэлі, калі яна пабачыла майго сына Антона, адразу запыталася ў яго, ці ён гаворыць пабеларуску. Ён адказаў, што ведае беларускую мову, толькі ня зусім добра, бо нарадзіўся ў Аўстраліі. Тады яна сказала, што яна таксама ведае беларускую мову, але таксама ня зусім добра. Было нам усім вельмі прыемна й цікава сустрэцца й быць разам зь імі на сустрэчы ў сп-ва Корбутаў.

**Л. Яцкевіч**

## ДВА ДНІ Ў АДЭЛЯЙДЗЕ

Жывучы ў Аўстраліі 26 гадоў (у Брызбэйне, Мэльбурне), першы раз давялося мне наведаць нашых Беларусаў у Адэляйдзе. Хачу тут адразу выказаць падзяку Сп-ву Грушам, якія ўзялі мяне й майго сына з сабою. Яны ехалі ў Адэляйду на вечарыну, якую ладзіла Беларуская Парахвія Сьв. Пятра й Паўла. Ехалі мы аўтам, іншыя з Мэльбурну ляцелі самалётам. А 5-ай гадзіне раніцы мы выехалі з Мэльбурну й за дзесяць гадзінаў язды былі ўжо ў Адэляйдзе.

Хутка мы знайшлі дом добрага майго знаёмага зь лягераў ДП у Нямеччыне (у Рэгензбургу, Міхэльсдорфе, Остэргофэне і Розэнгайме), прыяцеля нашай сям'і Алеся Садоўскага. Ня бачыла я яго ад 1949 году, дык і ня дзіва, што сустрэліся мы ,як брат ізь сястрою. Алесь прынёс альбом із шматлікімі здымкамі з тых мінулых гадоў. Прагна разглядалі іх. На нас глядзелі твары знаёмых і блізкіх нам асобаў, некаторыя зь якіх перадчасна адыйшлі ад нас у вечнасьць, некаторыя вельмі неспадзявана, як найлепшыя сябры Садоўскага сьв. пам. Алесь Марговіч, Карась, Данат Яцкевіч. Пра іх засталіся ўспаміны, якія заўсёды будуць у нашых сэрцах, як пра ахвярных грамадзкіх працаўнікоў і верных сыноў Беларусі. Пераглядаючы далей фотаздымкі, — а іх было вельмі шмат, — зноў і зноў сустракаем супольных знаёмых і прыяцеляў. Успаміны сумныя й радасныя агарнулі нас, што не агледзеліся, як праляцелі цэлыя гадзіны.

Смачна вячэралі. Мілая й прыемная гаспадыня сп-ня Садоўская парупілася пра ўсё, а я з Алесем усё не маглі адарвацца ад успамінаў, і гутарцы на тую-ж тэму ня было канца. На другі дзень 2-га жніўня сёлета мелася адбыцца вечарына на якую мы прыехалі. Раніцаю я й мой сын паехалі паглядзець горад Адэляйду. Малы горад, але нам спадабаўся.

Увечары зьбіраліся на вечарыну. У прыгожым мадэрным будынку „Капэрнік Гол" у вялікай прыгожай залі, перапоўненай людзьмі, грала вялікая аркестра. Сярод іншых мэлёдыяў была чуваць і нашая вясёлая „Лявоніха", „Крыжачок", „Полька-Янка". Вечарына была ўдалая. І хоць яна мелася трываць толькі да 12-ай гадзіны ночы, была гаспадарамі — Царкоўным Камітэтам прадоўжаная да першае гадзіны, пазьней і да другой. Былі ўдзячныя ўсе прысутныя сп. сп. Ул. Кулінічу й К. Станкевічу, а я пры гэтай нагодзе хачу падзякаваць ад Беларусаў Мэльбурну. Вечарына закончылася адыграньнем беларускага нацыянальнага гімну. Брава, Беларусы Аддэляйды!

На другі дзень раніцай мы сьпяшаліся ў царкву. Прыгожая царква нашых суродзічаў у Адэляйдзе. Добра зарганізаваны царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента М. Бурноса, які прыгожа пяяў падчас Багаслужбы. Настаяцель царквы а. Георг прывітаў Беларусаў з Мэльбурну. Пасьля Божае Службы нас запрасілі на супольны абед, падрыхтаваны парахвіянкамі ў сваёй собскай залі, якую нядаўна пабудавалі каля царквы.

Я дзівілася з ахвярнасьці жанчын, якія, пасьля вечарыны змучаныя, бо й на вечарыне яны-ж ладзілі буфэт і лятарэю, знайшлі час, каб зрыхтаваць гэты абед. Відаць, пануе там у Адэляйдзе любасьць да свае царквы й да свае беларускае грамады. І хоць чакала нас вялікая дарога, ніяк не хацелася пакідаць гасьцінную беларускую хату. Два дні ў Адэляйдзе прынесьлі мне дарагія ўспаміны з далёкіх часоў 26 год таму. Із шчырай падзякай пакідалі мы гасьцінную сям'юі сп-ва Садоўскіх, усю беларускую калёнію й прыгожы гарадок Адэляйду. Шчыра Вам усім дзякую.

**Л. Яцкевіч**

***

У прыватным лісьце, прысланым разам з вышэй зьмешчаным артыкулам, сп-ня Ліля Яцкевіч (прабачце, Ліля!) піша: За часы перажытыя я згубіла сваё здароўе, зрабілася нэрвовай, але стараюся сама сябе паўстрымоўваць. І таму працую грамадзка, бо ведаю, што я, як і сотні іншых жанчынаў, патрэбныя ў грамадзкім жыцьці. І гэта мяне цешыць, хоць часамі прыходзіцца гэтак цяжка, што на хвіліну здаецца пакіну сваю працу. Але маё сумленьне, як Беларускі, не дазваляе гэтага, і ўзноў тую працу вяду далей . . .

Я думаю, што хоць і не назьбіралася ў Вас матарыялу на Жаноцкую Старонку, то на першы раз было-б можа найлепш, каб Вы самі далі прыклад, каб усё-ж у гэтым Жаноцкім Годзе нарадзілася нашая Беларуская Старонка ў газэце.

# МІЖНАРОДНЫ ЖАНОЦКІ ГОД

Як ведама, на прапанову Задзіночаных Нацыяў год 1975 быў абвешчаны Міжнародным Годам Жанчыны.

Кажная амаль краіна пасвойму адзначае гэты год. І хоць у розных краінах стала працуюць жаноцкія арганізацыі, аднак сёлета стварылася нагода прысьвяціць і на шырэйшым адрэзку большую ўвагу гэтай дзейнасьці, занядбоўванай часамі грамадзтвам і самымі навет жанчынамі ў сваіх арганізацыях.

З нагоды Міжнароднага Году Жанчын ладзіліся адмысловыя міжнародныя канфэрэнцыі. У Ўсходнім Бэрліне камуністычныя пераважна краіны рабілі на такой канфэрэнцыі рэкляму свайму палітычнаму кірунку. У Менску ў жнівені адбылася Міжнародная сустрэча на тэму: „Жанчыны ў барацьбе супраць фашызму, за трывалы й справядлівы мір на зямлі".

Галоўнай імпрэзай у рамах Міжнароднага Жаноцкага Году была Сусьветная Міжнародная Канфэрэнцыя Задзіночаных Нацыяў у сталіцы Мэксыкі ў часе ад 19-га чырвеня да 2-га ліпеня пад лёзунгам: „Роўнасьць, разьвіцьцё, мір".

Канфэрэнцыя гэтая сталася розыгрышам паміж лібэральным, дэмакратычным сьветам, вырасшым у свабодзе, і баявымі падрыхтаванымі да нападу прапагандысткамі камуністычнага блёку (можа некаторыя зь іх рабілі гэта ў добрай веры, за сваю праўду, выхоўваныя ад дзяцінства у камуністычнай атмасфэры). Дыскусіі зьмяніліся ў шумныя эмацыянальныя выступленьні з абодвых бакоў, прычым савецкая прэса называла гэтыя спрэчкі змаганьнем прагрэсу з рэакцыяй. Прагрэс — гэта ў першую чаргу Савецкі Саюз і іх „шчасьлівыя" рэспублікі, сатэліты Савецкага Саюзу, Куба ды некаторыя краіны Паўдзённай Амэрыкі, зразумела і краіны Афрыкі; рэакцыя — гэта ў першую чаргу — ЗША, Ізраэль, Канада і іншыя заходня-эўрапейскія краіны.

У канфэрэнцыі ўзяло ўдзел каля 150 дэлегацыяў, якія рэпрэзэнтавалі ўрады краінаў і некаторыя міжнародныя арганізацыі, разам ад 130-ці краін. У іх ліку былі і дэлегацыі Савецкага Саюзу, Беларусі і Украіны. Савецкая дэлегацыя складалася з 30 жанчын. Ачольвала яе Валентына Церашкова (беларускага паходжаньня). Дэлегацыя складалася з прадстаўнікоў партыі, урадавых і грамадзкіх арганізацыяў, прадстаўнікоў народнае гаспадаркі і культуры, як падавала савецкая прэса.

На чале беларускай дэлегацыі была заступніца Старшыні Савету Міністраў БССР Ніна Сьняжкова і яшчэ дзьве жанчыны: Алена Рамановіч зь беларускае камісіі Задзіночаных Нацыяў па справах жанчын і Зінаіда Бычкоўская — прадзільшчыца зь Менску — Герой Сацыялістычнае працы.

Канфэрэнцыя праводзілася ў двух групах: першая афіцыйная Міжнародная (Міжурадавая) Сусьветная Канфэрэнцыя Задзіночаных Нацыяў і другая неўрадавая Трыбуна для зацікаўленых групаў і навет пасобных прыватных асобаў. На гэтай Трыбуне абмяркоўвалі тыя-ж пытаньні, што стаялі на парадку дня Канфэрэнцыі Задзіночаных Нацыяў. Шматлікія грамадзкія арганізацыі з розных краін прыймалі ўдзел у паседжаньнях Трыбуны. Паміж імі і эміграцкія арганізацыі паняволеных камунізмам народаў. Былі на паседжаньнях і выступалі стала прысутныя на гэтых паседжаньнях і прадстаўніцы камуністычнага блёку. Адразу на абодвых канфэрэнцыях пачаліся сутычкі дэлегатак заходніх краінаў Эўропы і ЗША з дэлегатамі камуністычных краінаў. Прадстаўнічкі заходніх краінаў Эўропы ўважалі, што справа так войстра пастаўленая камуністычнымі краінамі пра актыўны ўдзел жанчын у змаганьні за мір у сьвеце ёсьць пытаньнем палітычным і прапанавалі ў першую чаргу парушыць справы чыста жаноцкія як справу ўзгадаваньня дзяцей, сямейнае жыцьцё і г. д. У вадказ на гэта бралі голас падрыхтаваныя жанчыны камуністкі й даводзілі, што неабходным ёсьць, каб усе жанчыны сьвету ўзмоцнілі барацьбу за мір, за поўнае раззбраеньне, за міжнародную бясьпеку, пры гэтым размалёў-

(Заканчэньне на 6-ай бачыне)

# ЗЬ ДЗЕЙНАСЬЦІ ЖАНЧЫНАЎ У КЛІЎЛЕНЬДЗЕ



У чарзе па білеты на лятарэю, першая зь лева Галіна Кананчук

Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўленьдзе сыстэматычна праводзіць сваю добрую працу сярод беларускай калёніі ў Кліўленьдзе. Яно ладзіць свае гадавыя імпрэзы, каб здабыць патрэбныя грошы й памагчы матарыяльна ў вядзеньні працы унутры беларускай калёніі, рэпрэзэнтацыі навонкі, а таксама выдатна памагае ў імпрэзах, ладжаных іншымі беларускімі арганізацыямі.

З мэтаю прыдбаньня грошай 24 жнівеня сёлета Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне наладзіла маёўку на тэрыторыі Беларускага Грамадзкага Цэнтру „Полацак". Маёўка прайшла вельмі ўдала, бо жанчыны маглі падрыхтаваць смачную ежу, наладзіць разрыўкі й гульні для дзяцей ды далі магчымасьць старэйшым прыемна правесьці час у беларускай атмасфэры. За добрую падрыхтоўку й правядзеньне маёўкі жанчыны заўсёды атрымліваюць належную падзяку і ўзнагароду ў якасьці грашовага даходу ў касу.
Другой імпрэзай, зладжанай 26 кастрычніка, быў традыцыйны базар, які звычайна пачынаецца адразу пасьля Багаслужбы ў царкоўнай залі. Праграмаю гэтага базару быў сёлета смачны й багаты абед, разыграньне багатай лятарэі, у часе якіх пяяліся народныя песьні. На лятарэю усе экспанаты тут заўсёды ахвяроўваюцца жанчынамі, таму ёсьць шмат выйгрышных нумароў. Гэта прыцягвае публіку, асабліва моладзь і дзяцей, якія прыслугоўваюць пры розыгрышы й найбольш разыгрываюць яе. Гэткая ахвярнасьць і праца добра ўзбагачваюць касу арганізацыі.

Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне на працягу году аказвае дапамогу ўсім арганізацыям беларускае калёніі ў ладжаньні імпрэзаў, як Парахвіі Жыровіцкае Божае Маці, Аддзелу БАЗА й Грамадзкаму Цэнтру „Полацак". Жанчыны найбольш спачуваюць і высылаюць прывітаньні й кветкі хворым, асабліва пэньсіянэрам, якія найбольш патрабуюць гэтага. Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне падтрымоўвае матарыяльна й газэту „Беларус".

Усё гэта выконваецца дзякуючы актыўнаму й дасьветчанаму кіраўніцтву Беларускага Жаноцкага Згуртаваньня, а таксама актыўнай групе ягоных сяброўак, якія не шкадуюць часу й ахвярнасьці для гэтае працы. Таму вялікая ўдзячнасьць належыцца ім ад усяе калёніі й пажаданьне ўдачаў у заплянаванай працы на будучыню.

**К. К-а**

# АЛЕЙЗА ПАШКЕВІЧАНКА – ЦЁТКА

### ГАДАНЬНЕ

Загадай, зазюля, закувай аб шчасьці,
Варажы аб долі запрапаўшай Насьці:
Дзе вянок руцяны, дзе сынок ядыны,
Дзе краса падзелась зь лічыка дзяўчыны?
Чаму у ваковах Насьці тонкі рукі?
Чамоу твар скасіўся ад страшэннай мукі?
На грудзях запаўшых вузялок зь зямлёю —
Усё, што зь вёскі Насьця вынесла з сабою.
У халодных мурах бела вяне цела;
Насьця ўдвое гнецца, за год пасівела.
Замест вочак сініх — поўны сьлёз дзьве раны;
Тварык без румянцу, як папар з'араны . . .
Ну, гадай зязюля! Закукай аб шчасьці,
Варажы аб долі нашай беднай Насьці!
. . . Зашумела птушка, седзячы ў вярбіне:
Знаць, што шчыра хоча варажыць дзяўчыне. . .

**1910 г.** **Алёйза Пашкевічанка**

Алёйза Пашкевічанка (Цётка) нарадзілася 3-га ліпеня 1876 г. ў вёсцы Пешчына, Лідзкага павету. Пазьней аж да 17 году жыла ў вёсцы Стары Двор. У сям'і было 5 дачок і два сыны. Вучылася яна ў расейскай гімназіі Прозаравай у Вільні і пасьля сканчэньня з найлепшымі адзнакамі паехала ў Пецярбург далей вучыцца. Там спаткалася із сваім будучым мужам Кэйрысам, каторы падае наступнае із сваіх успамінаў пра Цётку:

„У Пецярбург Алёйза Пашкевічанка запісалася на вышэйшыя пэдагагічныя курсы прафэсара Лезгафта і адразу трапіла ў самы вір рэвалюцыйнага руху акадэмічнай моладзі. У гэтым асяродзьдзі яна пачулася адразу „як у сябе дома". Уважала за свой абавязак і гонар быць усюды там, дзе так ці гэтак выяўляўся нарастаючы супраць існуючага ладу настрой. Яна наведвала сходкі, брала ўдзел у дэманстрацыях, рупілася пра арыштаваных сяброў. Чулася Беларускай і гэткаю засталася назаўсёды".

У тагачасным Пецярбургу Пашкевічанка знайшла сьціплае сваё нацыянальнае асяродзьдзе. На тэхналягічным Інстытуце студыяваў тады Вацлаў Іваноўскі. Цётчын сусед з двара Лябёдка, у пазьнейшыя гады ейны доўгагодні супраціўнік. З блізкіх Цёткі прыяцеляў прыпамінаю Сабіну Ячыноўскую, якая пасьля выйшла замуж за Вацлава Іваноўскага.

Нязвычйна жывога характару, няштодзённая, яна вырозьнівалася і ў шматкалёрным асяродзьдзі ды адразу зрабіла на мяне ўражаньне „чалавека з жывой душой". Калі з прычыны студэнцкіх страйкаў школы зачынілі, Цётка вярнулася дамоў. У Вільні ад 1903 году дзеіла Беларуская Рэвалюцыйная Грамада. У 1906 г. пачынаюць выходзіць у Вільні беларускія тыднёвікі, спачатку „Нада Доля". а пасьля „Наша Ніва" ". Для Цёткі была гэта ці не найбольш інтэнсыўная пара ейнай палітычна-грамадзкай працы. Поўна было яе ўсюды. Першы раз я яе спаткала зусім неспадзявана на сацыялістычным мітынгу і дзівілася, як яна зьмянілася. Я-ж яе знала як малагаваркую, спакойную жанчыну, а тутака перад аўдыторыяй была аратарка, якая зь вялікай сілай і перакананьнем будзіла ў слухачоў запал і любасьць да прыгнечанага работніцкага люду і беларускага сялянства, за вызваленьне і лепшую долю якога трэба ахвяраваць усе свае сілы і жыцьцё. Слухаючы Алёйзу Пашкевічанку, я разумела, што яна ўзапраўды адчувае тое, да чаго ўсіх заклікае, і дзеля таго, што гэта плыло ў яе ад душы, яна мела вялікі ўплыў на ўсю вялікую аўдыторыю. Працавала яна і ў газэце, брала ў сходах, выступала як прадстаўніца Беларускай Сацыялістычнай Грамады на нарадах дэлегатаў рэвалюцыйных партыяў. Як мне здаецца, тады яна пачынала прабаваць свае паэтычныя здольнасьці. Прынамся яе верш „Хрэст на свабоду" быў адным з найпапулярнейшых з публічна дэклямаваных вершаў. У васобе Цёткі малады беларускі рух здабыў ня толькі аддану ўсёй душой працаўніцу, але і няўтомную ініцыятарку самога руху.

Жывучы тады ў Вільні, Цётка жыла сярод свае сям'і. Ейныя два браты, абодвы ахвіцэры Маладэчынскага пяхотнага палку, нежанатыя, мелі супольнае памешканьне на Сьніпішках. Братоў наведвалі прыездам старэйшая сястра Стэфанія і маладзейшая Караліна. У братоў жыла й Алёйза. Дзейнага падтрыманьня сваёй беларускай нацыянальнай працы ад сяброў свае сям'і Цётка ня мела. Але і ейны ўдзел у беларускім руху не ўвжаўся ў сям'і за нейкае няшчасьце.

У 1905 годзе, калі заламалася рэвалюцыйная дзейнасьць, Цётка выехала ў Кракаў, каб ня быць арыштаванай, і пачала студыяваць літаратуру на Кракаўскім унівэрсытэце. Наведвала там таксама драматычную студыю артысткі Сольскай. Ужо значна пазьней, у 1913 г., калі яна стала жыла ў Вільні, Пашкевічанка-Кэйрыс пакладала шмат натугаў, каб зарганізаваць і рыхтаваць трупу беларускіх артыстых-а-

(Заканчэньне на 7-ай бач.)

## ТРЫПУТНІК

(Заканчэньне зь 5-ай бачыны)

Нашая школа, нашая родная мова, як гэты трыпутнік, жыве і цьвіце, і калі-б здарылася, што з прычыны нашае ляноты ці абыякавасьці пачалі яе тут у свабоднай краіне занядбоўваць, яна ўсё-роўна будзе жыць і цьвісьці хоць трыпутнікам. . .

І я прачнулася. Гэта была сыбота і трэба было зьбірацца у Беларускую Школу. Было цяжка на сэрцы, што сон-мара ня зусім адпавядае рэчаіснасьці.

Сьвежай раніцай, па дарозе ў школу зноў прыпынілася ля трыпутнікаў і зноў міжвольна рука пацягнулася за росным лістком. Ці паўторыцца той сон, ці будзе іншы?

І гэтым разам быў сон: На вялікім пустым пляцу стаялі людзі, групамі і паасобку, стаялі, прыглядаліся,ківалі галовамі, а пасярэдзіне пляцу невялікая параўнальна колькасьць людзей зацята працавала. Яны капалі, іншыя пхалі саматужна тачкі з цэглай —— Нешта будуюць — падумала я й падыйшла бліжэй да іх, прыгледзілася. Твары выдаліся нібы знаёмыя. — Што вы робіце тут? — пытаю. — Будуем манумэнт для нашых унукаў, нашчадкаў — адказаў ужо пажылы чалавек і ў голасе ягоным чулася сіла, хоць салёны пот заліваў твар. І зусім мала было маладых між імі. Былі аднак і жанчыны, завіхаліся, працавалі й нешта знаёмае сьпявалі, некалькі маладых дзяцюкоў і навет дзяцей — вось глянуў на мяне весела хлопчык, вучань беларускай школы, які з усяе сілы цягнуў мяшок пяску, напружваецца й цягне . . . А тыя, што стялі збоку, ківаюць усё галовамі, дзівяцца і шэпчуць: Пашто нам гэты манумэнт патрэбны, маем сытае жыцьцё, аб чым-жа маем яшчэ галаву марочыць?

— Дзіўныя нашыя людзі, усё будуюць Беларусь. навет і тут на эміграцыі. — Эх, яны дурныя, як тая прыказка кажа: „Дурня работа любіць", вось і выдумляюць. Нечакана праз'ёр паветра моцны выкрык: „Ідзіце да хаты, ня стойце, ня кракайце, вы тут непатрэбныя! Ідзіце ў вашыя сытыя, выгадныя гнёзды, і толькі маўчыце, ня перашкаджайце. Ня перашкаджайце!

— Мама, мама, прачніся! Супакойся, нешта страшное, відаць табе сьнілася?

Была страшнай абыякавасьць часткі нашай беларускай грамады, абыякавасьць да грамадзкіх высілкаў, грамадзкіх дасягненьняў.

Сьвежай раніцай падарозе на працу зноў вітаў мяне новы мой прыяцель трыпутнік. На лёгкім ветры ўсё яшчэ гойдаліся белыя сьцяжкі пруцікаў і срэбныя кропелькі расы серабрыліся на лістках. Трыпутнік цьвіў, дык чаго-ж непакоіцца, ёсьць у нас будучыня, ёсьць досыць людзей, у сэрцах якіх жыве наша ідэя-праўда, ідэя незалежнасьці, за якую пamiралі нашыя гэроі. Ідэя не памрэ, і народ той, які сьцеражэ сваю ідэю і змагаецца за яе, не памрэ, ён вечны, як той трыпутнік, бо ў народз беларускім „моц жыве нячуваная — моц і сіла самой зямлі".

Артыкул гэты быў напісаны ў 1968 годзе, але ня быў зьмешчаны ў беларускай газэце з прычыны . . . нястачы месца.

Перагледаючы старыя паперы сёлета, наткнулася на гэтыя балонкі, перачытала й падумала, што прыйшоў адпаведны час дзеля ягонага надрукаваньня, калі мы, як падсуседзі газэты „Беларус", атрымалі ў ёй трохі месца для жанчынаў.

Цікава, што мая прыязьнь да гэтае расьліны праз гады яшчэ больш замацавалася. Калі часам даводзіцца нешта цяжка перажываць ці ў васабістым або ў грамадзкім жыцьці, шукаю падтрымкі ў трыпутніку. І будучыня малюецца сьвятлейшай і больш спрыяльнай для нашай грамадзкай беларускай дзейнасьці, і для нас жанчын.

Так хочацца, — эгаістычна трохі, — прысабечыць, забраць гэты сымбаль пакуты й адначасна моцы для беларускай жанчыны ў гэтым Міжнародным Жаноцкім Годзе. Што беларуская жанчына пакутніца, хіба шмат хто згодзіцца. Усе пакуты прыгоннае працы, усе турботы за сям'ю й дзяцей, бясконцая фізычная праца жанчыны-сялянкі, жахі войнаў, уцёкаў, пажараў, і ў той-жа час уклад, гэніяльны ўклад у скарбніцу нашага фальклёру, уклад у мастацтва, калі хоць прыгадаем мастацкую каштоўнасьць славутых слуцкіх паясоў, ведамых на ўвесь сьвет, нашыя арыгінальныя беларускія ўзоры, перахаваныя праз стагодзьдзі ад першапачаткаў нашага жыцьця, як грамады — плямёнаў аж па сяньняшні дзень! Амаль інстынктоўна перахавалі самыя старыя геамэтрычныя ўзоры, магчыма, від найстарэйшага ўмоўнага пісьменства жанчыны. Вядуцца дасьледваньні над гэтым. І гэта пакутніца Беларуска стварыла несьмяротнае харство народнае песьні, народнага мастацтва, народнага танцу, а была-ж яна на працягу стагодзьдзяў як трыпутнік „сівым туманам удзень спавітая", і крыўджаная і зьневажаная. Аднак у патрэбе падымалася з цэлым народам, і змагалася, і цярпела, і па турмах ды ссылках, і менш наракала на сваю долю-нядолю, бо дабраахвотна, ад нараджэньня прыняла на сябе пакуты й сілу трыпутніка (бабкай звалі яго у нас ласкава жанчыны).

І калі Бог дапаможа й голас наш будзе чуваць час ад часу ў друку, мы маем сабе імя, маем назоў, наш голас будзе голасам трыпутніка, бо да нас у першую чаргу й датычаць тыя чулыя словы: „А ён расьце трыпутнік, а ён цьвіце пакутнік!"

**Зіна Станкевіч**

**Сяброўкі Згуртаваньня у Остэргофэне (Нямеччына)**

Зьмяшчаючы гэтую фатаграфію, мы маем на ўвеце зьвярнуць увагу жанчынаў, а асабліва тых жанчынаў — піянэрак жаноцкай дзейнасьці на эміграцыі, што час прыйшоў нам зактывізаваць жаноцкую дзейнасьць.

Больш за трыццаць гадоў мінула з таго часу, калі мы пачыналі і не бяз посьпеху сваю грамадзкую працу. Сяньня гэта ўжо гісторыя і нам трэба аднавіць у памяці тыя часы, дэталі нашае зарганізаванае працы ў сваіх арганізацыях і вонках іх, каб, пакуль ня позна, зафіксаваць яе на паперы, каб сьлед аб ёй застаўся на будучыню. Памяць нашая абмежаваная, але дапамагаючы сабе ў гэтым, разам, мы прыпомнім усё: і ладжаныя выстаўкі народнага мастацтва, і мастацкую самадзейнасьць, нашу шырака разгорнутую дапамагова - хрытатыўную дзейнасьць, удзел у арганізаваньні і навучаньні дзяцей у сваіх беларускіх школах і незабыўныя сустрэчы, гутаркі і дыскусіі з нашымі вядучымі людзьмі: з Сьвятой Памяці кампазытарам Міколам Равенскім, прэзыдэнтам Рады БНР Міколам Абрамчыкам, Уладыкам Васілём (яшчэ тады лектарам УНРА Унівэрсытэту ў Мюнхэне), з Аўгенам Кавалеўскім кіраўніком мастацкае студыі ў Остэргофэне ды іншымі.

Зробім пераклічку, пачынаючы ад гэтага вось фота, паколькі памяць дазволіць, на Вашыя ўдакладненьні буду чакаць.

Сядзяць зьлева направа: сп-ні: Лук'янчык, М. Кендыш, Д. Каваль, Б. Вінніцкая, Л. Ляшкевіч, Л. Яцкевіч, Прэзыдэнт М. Абрамчык, З. Станкевіч, Яраховіч, стаяць зьлева направа: сп-ні Л. Вініцкая (Арцюх), І. Чарнэцкая (Гайдзель), прозьвішча не памятаю, Няпеін, Лазар, Г. Лукашэвіч, А. Чарнэцкая, В. Канарчук, і Сьв. Памяці А. Кажан..

## МІЖНАРОДНЫ ЖАНОЦКІ ГОД

(Заканчэньне з 5-ай бачыны)

ваючы райскае жыцьцё савецкай жанчыны ў свабоднай краіне Саветаў. І пэўна-ж знаходзілі захопленых наіўных слухачоў, бо з прыемнасьцяй слухаецца прыгожа выказаная фантазія — савецкая прапаганда. І хоць дэбаты былі бурныя і аргумэнты прадстаўніц Захаду пераконваючыя, але пасьля галасаваньня была прынятай галоўная Дэклярацыя такая, якую хацелі камуністычныя краіны. Два галасы былі супраць гэтае дэклярацыі: ЗША і Ізраэль.

Панаваў левы й антыамэрыканскі настрой таксама й на „Трыбуне". Там усё даслоўна памешканьне было засыпана марксыцкай літаратурай. І там былі бурныя спрэчкі паміж заходнімі прадстаўнікамі, ЗША і Канады. Камуністычны блёк і такія краіны як Гвінэя, Альжыр, Мэксыка, а перадусім Савецкі Саюз спрычыніліся да таго, што прапановы заходняга блёку ня мелі посьпеху.

А там на вуліцы каля будынку, дзе вялася канфэрэнцыя Трыбуны ў будынку Мэдычнага Цэнтру, сядзелі на зямлі Украінкі — эмігранткі жыхаркі вольных краінаў пад агромным плякатам, які заклікаў да помачы для ўкраінскіх жанчын увязьненых у Савецкім Саюзе. Перад плякатам, напісаным у ангельскай і гішпанскай мовах, спыняліся ўдзельнікі абедзьвюх канфэрэнцыяў, распытвалі жанчын, якія аб'явілі галадоўку ў вабароне арыштаваных у Савецкім Саюзе Украінак. Не аднаму дэлегату адчынілі вочы гэтыя гутаркі і раздаваная адпаведная літаратура. У гэтых днях 25 да 27-га чырвеня была нагода даваць газэтным карэспандэнтам інфармацыі пра паняволеныя камуністычным рэжымам народы. У прэсе і тэлевізіі ня толькі Мэксыкі, але і многіх заходняэўрапейскіх краінаў былі зьмешчаныя справаздачы з гэтага выступу. І якая шкада, што ня было там беларускіх жанчын, якія-б расказалі таксама аб крыўдах Беларусаў.

Мы Беларускі Нью Ёрку, адзначылі гэты год іншым, сьціплым, але трывалым спосабам. Наша асаблівая ўвага была зьвернутая на нашу нутраную працу, у беларускіх школках, на выхаваньне дзяцей на сьведамых Беларусаў, на пашырэньне ведаў з нашае гістарычнае і літаратурнае спадчыны, бліжэйшае знаёмства з выдатнымі жанчынамі з нашага мінулага.

У гэтым пляне Жаноцкае Згуртаваньне, Аддзел Нью Ёрк, зладзіла сымпозіюм 16-га лістапада, на якім пазнаёміла прысутных з трымя выдатнымі Беларускамі, з Барбарай Радзівілянкай (XVI стагодзьдзе), Беларускай, якая сталася жонкаю Зыгмунта Аўгуста і гэтым самым каралевай Польшчы, вялікай княгіняй Літвы (Беларусі), Жамойці, Русі, Прусаў і Мазоўша. Аб няшчаснай яе долі ў жыцьці расказала дакладчыца сп-ня Галіна Русак, а мастацкія ілюстрацыі вялікіх адбіткаў патрэтаў Барбары, караля й вялікага князя ейнага мужа Зыгмунта Аўгуста, ейных братоў Радзівілаў, як і дадатковыя сьвежыя дасьледваньні зь ейнага жыцьця падрыхтавала сп-ня Зора Кіпель. З постацяй выдатнай беларускай грамадзкай, рэвалюцыйнай дзеячкі, духовай кіраўнічкі ў падрыхтоўцы паўстаньня Кастуся Каліноўскага з 1863 году ў Менску Камілі Дунін-Марцінкевіч пазнаёміла слухачоў сп-ня Зінаіда Станкевіч. Апрача гэтага, каб пазнаёміцца зь беларускай сучаснай літаратурай, былі рэцытаваныя вершы паэткі — дзяўчыны з над Бярозы ракі Сьвятланы Басуматравай, прадстаўніцы мамаладое зьмены ў беларускай савецкай літаратуры.

Вершы рэцытавалі: сп-ня Вера

(Заканчэньне на 7-ай бач.)

### ЖАНЧЫНЫ МІЖ САБОЙ

**(Канцавіца)**

Вось дайшлі мы й да канца гэтае балонкі, сьціплае, не вялікае, але нашае — жаноцкае, якую прапануем Вашай увазе.

На працягу даўжэйшага часу мы навучыліся, што ніхто нам не дапаможа, калі мы самі сабе не дапаможам. Калі мы хочам нешта сказаць на тую ці іншую тэму, якая нас цікавіць, калі хочам быць прыкметнымі ў нашай грамадзе, калі заслугоўваем на нешта большае, чымся дзякуй за варэньне страваў, падаваньне і змываньне судзьдзя, нешта большае за наш удзел і рупнасьць ува ўсіх грамадзкіх пачынаньнях, і калі маем свае думкі, хочам заняць становішча ў больш сур'ёзных пытаньнях нашае эміграцыі, маем мець сваю трыбуну — сваё друкаванае слова.

Калі мы захочам, зможам на гэта здабыцца — ахвярна, шчыра і моцна захочам. Мы не павінны баяцца зьвязанай з гэтым працы, бо-ж да працы нам ня прывыкаць, але мы ведаем асалоду з пачуцьця выкананага абавязку і цану самапашаны. Будуць і кошты, за месца ў газэце трэба плаціць, за свой адумысловы часапіс трэба плаціць яшчэ больш. Дык пад Вашу развагу, Дарагія, ставім гэтае пытаньне і чакаем ягонага выясьненьня. У згодзе й дапамозе, хто чым зможа, напісаным артыкулам ці мастацкім творам, ці грошам ад шчырага сэрца мы зможам наш часапіс, ці хоць лісток-балонку выдаваць. Калі знойдуцца такія, што захочуць адразу прысылаць сваю фінансавую дапамогу, прапануем скарыстаць гэтым разам адрас „Беларуса" з заўвагай, што ахвяра на Жаночую балонку.

**Цётка Гандзя**

## АЛЁЙЗА ПАШКЕВІЧАНКА

**Заканчэньне з 6-ай бачыны**

матараў для гастроляў па меншых мястэчках Віленшчыны.

Алёйза Пашкевічанка, якая кажнай працы аддавалася ўсёй сваёй душой, ня ўмела сьцерагчы свайго здароўя. Яна ня знала супачынку, калі трэба было нешта тэрмінова выканаць. За працаю часта забывалася, што трэба й есьці. Калі была студэнткаю ў Кракаве, не хацела зварачацца да блізкіх па дапамогу, дык часта галадавала. Як найменш рупілася пра свае ўборы — ёй усё ішло. Калі ў 1907 г. Кэйрыс па дарозе завярнуў ў Закапанае, у гуральскай хаціне знайшоў хворую на лёгкія Цётку. Нядбайнасьць пра здароўе з часам памсьцілася. Аднак Цётка была як заўсёды жвавая, чуйная на падзеі, і найменш дбайная пра сябе.

Калі яна паправілася зь лёгкімі, перабралася на студыі ў Львоўскі унівэрсытэт, на гістарычна-філялягічны факультэт. Цікавілася моцна гісторыяй, таму для свае дыплёмнае працы яна ўзяла гістарычную тэму: „Паўстаньне Сьвідрыгайлы". Пазьней тэму зьмяніла і пачала зьбіраць матарыял пра беларускую батлейку. Гэтага матарыялу назьбірала даволі шмат, працы аднак не напісала. На Львоўскім унівэрсытэце Пашкевічанка студыявала да 1911.

У 1906-7 г., калі спадаў рэвалюцыйны рух у Расеі, Цётка на даўжэйшы час адмяжавалася ад палітычнай дзейнасьці ды аддавалася нацыянальна-культурнай працы. Новы кірунак набыла ад гэтага часу і ейная паэтычная творчасьць. Заўсёды яна верыла ў сьвятлейшую будучыню свайго народу. Найбольш працы і цёплай рупнасьці аддала тады выдаваньню часапісу для моладзі „Лучынка".

У лютым 1912 г. Пашкевічанка выйшла замуж за інжынера Кэйрыса і ад гэтай пары жыла ўвесь час у Вільні, наведваючы рэдчас Менск, сваё ды Кэйрысава роднае месца і Віленшчыну.

Цётка тады ня мела ніякай працы, што зьвязвала-б яе, і ўвесь свой час аддавала справам беларускага руху. Шмат пісала. У сваю творчасьць яна заўсёды ўкладала душу. Не заўсёды было ёй лёгка выказаць словамі перажываньні, пачуцьці і думкі. Чарнавікі ейных друкаваных твораў паказваюць, што часта патрэбная была марудная праца, пакуль выражаныя думкі знаходзілі сабе адпаведную форму на паперы. Можа дзеля гэтага Цётка не пасьпела стварыць гэтулькі, колькі абяцаў ейны, перажываньняміназьдзіў багаты, нутраны сьвет.

Першая сусьветная вайна прывяла Цётку на новы шлях працы. Віленскія шпіталі запоўніліся ранэнымі і хворымі на заразныя хваробы. Цётка ня ўмела быць абыякавай да падзеяў, і ў вясну 1915 г. пачала працаваць як сястра міласэрдзя ў бараку заразных хваробаў. Працавала да познай восені. У восені гэтага-ж году загінуў у франтавых баёх каля Горадні Цётчын брат Язэп. І гэта быў пачатак ідучых на яе няшчасьцяў.

Я спаткалася з Алёйзай Пашкевічанкай, па мужу Кэйрыс у тым-жа 1915 годзе у гаспoдзе Івана Луцкевіча. Іван Луцкевіч мяне запрасіў на паседжаньне Беларускага Камітэту Помачы Пацярпелым ад вайны. Яна казала, што жыве з мужам у Вільні і працуе ў шпіталі. Я расказала, што дзеля ваенных падзеяў я засталася ў Вільні, бо не хацела пакінуць маю радзіму і гэтым перапыніла сваю навуковую працу. „Нічога" казала Алёйза Пашкевічанка, „будзем працаваць у роднай Вільні, тут твая веда і праца будуць больш прыдатныя. Асабліва мяне цешыць, што ты знайшла дарогу да нашага Камітэту". Мы пераклалі ў нямецкую мову мэмарыял у справе беларускіх школаў. Яна зь нязломнай сваёй энэргіяй горача бралася за справы і была ў духу і энэргіі найлепшай сяброўкай Івана Луцкевіча. Яна асабліва рупілася аб адчыненьні беларускіх школаў, і памагала знайсьці памешканьне і інвэнтар. Хадзіла з роспытамі па раёне, вышуквала беларускія сем'і і заклікала бацькоў запісываць дзяцей у свае школы. І як мы ўсе цешыліся, калі ў лістападзе 1915 году была адчыненая першая беларуская пачатковая школа ў Вільні. Дзеля таго, што ня было настаўнікаў, супольным стараньнем Цёткі і Івана Луцкевіча былі адчыненыя Беларускія настаўніцкія курсы. Цётка ня выкладала, але вельмі цешылася, што калі 3-х месячныя курсы закончацца, дык можна будзе адчыніць беларускія школы на ўсіх прадмесьцях, дзе больш жыве беларусаў. Калі Вільня апынулася пад пагрозай голаду і трэба было ратаваць ад галоднай сьмерці дзяцей і арганізаваць публічныя сталоўкі і прытулкі для дзяцей, Цётка адразу ўключылася ў гэту працу. Ды не надоўга. У канцы 1915 г. захварыў на тыфус яе бацька і яго павезьлі ў шпіталь у Ліду. У студзені ён памёр. Цётка паехала з мужам на паховіны ў Ліду, а стуль на родную сялібу ў Стары Двор. Там лютавала эпідэмія тыфусу і Алёйза пачала хадзіць па хатах дапамагаць хворым. Сама яна не ўсьцераглася, таксама захварэла, і уначы з 3-4 лютага 1916 году памерла, маючы 40 гадоў. Перад сьмерцяй прасіла, каб пахавалі яе на бацькаўшчыне паміж родных палёў.

Цётка была арганічна зьліўшыся зь беларускім народам, і яе як у творчасьці, так і ў жыцьці — заўсёды цягнула туды, дзе было больш гора, больш крыўды. Гэта ня выпадкова ў сваёй творчасьці Цётка шмат сэрца аддавала вясковаму асяродзьдзю, самой гаротнай, самай прыбітай істоце — вясковай жанчыне.

Да яе магілы ў вёсцы Стары Двор ідуць людзі, ідуць вясковыя жанчыны, а на помніку на ейнай магіле вырытыя словы зь яе вершу:

На магіле ўзыду дубам,
Пачну шаптаць братнім губам
Аб іх долі, аб свабодзе,
Стану песьняй у народзе!

**Юльяна Дубяйкоўская**

***

Юльяна Дубяйкоўская, аўтарка вышэй зьмешчанага артыкулу нарадзілася й жыла ў Вільні (паходжаньня нямецкага). Добра ведала Алёйзу Пашкевіанку, бо вучылася зь ёю ў тэй самай расейскай гімназіі. Далучылася яна да беларускага руху, працавала ў Беларускім Камітэце Дапамогі пацярпеўшым ад вайны. Была блізкай сяброўкай Івана Луцкевіча. Сьвятой Памяці Юльяна Дубяйкоўская напісала гэты артыкул-успаміны для нас беларускіх жанчын даўно, бо ведала, што мы марылі аб выдаваньні свайго жаноцкага часапісу.

---

## ГАЛОЎНАЯ УПРАВА

**БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАНЬНЯ**

жадае Беларускім Арганізацыям, сваім Сябром і Прыхільнікам

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**

**і**

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1976 ГОДУ**

---

## СЭКТАР РАДЫ БНР У НЬЮ ДЖЭРЗІ

вітае з **КАЛЯДАМІ** ўсіх сваіх Сяброў, Прыхільнікаў і ўсіх Працаўнікоў на беларускай ніве

ды жадае ім

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

## РАДА БЕЛАРУСКАЙ АЎТАКЕФАЛЬНАЙ ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЫ Ў АНГЕЛЬШЧЫНЕ

вітае ізь Сьвятам

**ХРЫСТОВАГА НАРАДЖЭНЬНЯ Й З НОВЫМ 1976 ГОДАМ**

усіх Суродзічаў у Ангельшчыне, а таксама ў іншых краёх Вольнага Сьвету й на Бацькаўшчыне!

---

## УПРАВА АДДЗЕЛУ БАЗА У НЬЮ ДЖЭРЗІ

жадае сваім Сябром і Прыхільнікам

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**

**І**

**ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

## SCHACK'S HALL, INC.

**УЛАСЬНІКІ БРАТЫ В. і Р. АРЦЮШЭНКІ**

Жадаюць сваім кліентам

**ВЯСЁЛЫХ КАЛЯДАЎ**
**І ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА ГОДУ!**

---

**(Заканчэньне з 6-й бачыны)**

Бартуль, сп-чна Ніна Запруднік і сп-чна Рая Станкевіч. Жаноцкая арганізацыя пастанавіла працягваць гэткія сымпозіюмы, літаратурныя вечары й даклады надалей, знаёмячы нашае грамадзтва з выдатнымі беларускімі жанчынамі, як гістарычнымі, гэтак і сучаснымі.

Таксама вось у гэтым Міжнародным Жаноцкім Годзе друкуем гэтую балонку для ўвагі беларускага грамадзтва, перадусім беларускіх жанчынаў у Вольным Сьвеце. Гэткім парадкам мы і ўшаноўваем гэты Міжнародны Жаноцкі Год.

**З. Ст.**

---

### З ЧУЖЫНЫ

І душна, і цесна, і сэрца самлела
Мне тут на чужыне, здалёк ад сваіх
Як птушка на крыльлях, ляцець бы хацела,
Як хваля па моры, плыла-бы да іх!
Ўзьнялася-б, здаецца, расінкай на хмары,
А хмары-бы ветрам сказала я гнаць
Далёка, далёка, дзе сьняцца мне чары
Дзе боры густыя над Нёмнам шумяць;
Дзе пацеркай белай Вяльля прабягае,
Дзе Вільня між гораў гняздо сабе ўе,
Дзе кожна дарога і крыж мяне знае,
Дзе усё чыста вярнуцца заве.
Там я нарадзілася й вырасла ўволю,
Там першыя словы вучыла казаць.
Затое сягоньня ляцела-б стралою
Там зь імі з усімі год Новы спаткаць!
Ой мілыя, мілыя, сьнегам пакрыты
Загоны, лясочкі, дарожкі мае!
Эх, як вы у сэрцы маім не забыты,
Як часта абраз ваш у думцы ўстае!
А вы, бледны твары, пануараны ў працы,
І ты, друг мой, смутак зь іх сьлёзных вачэй,
Прыміце сягоньня прывет мой гарачы,
Каб жыць нам было ў гэтым годзе лягчэй!

**1-га студзеня 1909 г.**
**Кракаў**

**Цётка**

---

# РАДАСНЫХ КАЛЯДАЎ

## ШЧАСЬЛІВАГА НОВАГА 1975 ГОДУ

**СВАЯКОМ, ПРЫЯЦЕЛЯМ, ЗНАЁМЫМ І ЎСІМ СУРОДЗІЧАМ АД ШЧЫРАГА СЭРЦА ЖАДАЮЦЬ**

*Пратаярэй АБАБУРКА ЯНКА, настаяцель БАПЦ на Ангельшчыну, і МАТУШКА КАЦЯРЫНА*
*АЗАРКА МАРЫЯ й ЯНКА, ЮРКА й ІРЭНА*
*АКУЛА КАСТУСЬ ізь СЯМ'ЁЙ*
*Інж. АЛЕКСЫ ПАВАЛ*
*АРСЕНЬНЕВА НАТАЛЬЛЯ*
*БАКУНОВІЧ МІТРАФАН ізь СЯМ'ЁЙ*
*БАРТУЛЬ ВЕРА, ФРАНЬЦІШ і АНТОН*
*БЕЛАРУСКІ ВЫДАВЕЦКА-МАСТАЦКІ КЛЮБ „ПАГОНЯ"*
*БЕЛЕНІС ЛЮДВІКА й АНТОН*
*Інж. БРУЦКІ ЯНКА*
*ВЕРАБЕЙ МАРЫЯ й КАНСТАНЦІН*
*ВОЙТАНКА МАТУШКА МАРЫЯ*
*ВОЙТАНКА АНЯ й МІКАЛАЙ*
*ГРЭБЕНЬ МІКАЛАЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*ГУТЫРЧЫК ЛІТВІНА, СЯРГЕЙ і РАГНЕДА*
*ЖЫЗЬНЕЎСКІ НІКОДЭМ і АННА зь СЯМ'ЁЙ*
*ДАНІЛОВІЧ АЛЯКСАНДРА, БРАНІСЛАЎ і ЭДЗІК*
*ДАНІЛЮК МАРЫЯ і БАРЫС зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р ЗАПРУДНІК ВОЛЬГА, ЯНКА, НІНА й ВЕРА*
*КАЖАН ЛЮБА й ВІТАЛЬ зь СЯМЁЙ*
*КАРАНЕЎСКАЯ АЎГЕНЯ, СЬВЯТАСЛАВА й МАРЫЛЬКА*
*КАРАНЕЎСКІ СТЭФА, ФЛЯРЫЯН, ГЭЛЯ, МІХАСЬ, ВАНДА, ЯДЗЯ, КАРАЛІНА, ДАНУСЯ й МІХАСЬ малодшы*
*КАХАНОЎСКАЯ ЯНІНА*
*Д-р. КІПЕЛЬ, ЗОРА ВІТАЎТ і ДЗЕЦІ*
*КУНЦЭВІЧ МІКАЛАЙ*
*Д-р МАЛЕЦКІ ЯЗЭП і ЖОНКА*
*МАРКЕВІЧ АНТОН зь СЯМ'ЁЙ*
*Д-р НАБАГЕЗ УЛАДЗІМЕР зь СЯМ'ЁЙ*
*НАЙДЗЮК ЮЗЯ, ЧАСЛАЎ, КАРНЭЛЯ, ЯДЗЯ й ВІКТАР*
*НАРУШЭВІЧ ВОЛЬГА, СТАНІСЛАЎ і ЮРКА*
*НІКАН МІКОЛА й ДЗЕЦІ*
*НОРЫК КІНУСЯ, ЛЕАНІД і ДЗЕЦІ*
*РОДЗЬКА ВЕРА, ФІЛЯРЭТ зь СЯМ'ЁЙ*
*СТАГАНОВІЧ МАРЫЯ, АЛЯКСАНДАР і СЯМ'Я*
*Д-р СТАНКЕВІЧ ЗІНАІДА, СТАНІСЛАЎ і РАЯ*
*СТОМА НІНА й ВАСІЛЬ*
*СТРЭЧАНЬ АНДРЭЙ зь СЯМ'ЁЙ*
*СУБОТА КАЦЯРЫНА і АДОЛЬ*
*СУРВІЛА ІВОНКА, ЯНКА й ДЗЕЦІ*
*СЬЛІЎКА ЎЛАДЗІМЕР (ВАЛОДЗЯ)*
*ТУЛЕЙКА ВОЛЬГА і МІХАСЬ*
*ШУКЕЛОЙЦЬ АНТОН*
*ЧАРНЭЦКІ ЯНКА й АЛЯКСАНДРА*
*ХАНЯЎКА МАРЫЯ, ЧАСЛАЎ і СЯМ'Я*

*Мастацкае афармленьне Ірэны Рагалевіч*

# ШТО ЧУВАЦЬ?

**Артыкул др. Ст. Станкевіча пра беларускую літаратуру** надрукаваны ў кнізе "DISCORDANT VOICES. The Non-Russian Soviet Literatures. 1953 — 1973" (Галасы нязгоды. Нерасейскія савецкія літаратуры. 1953-1973 гг.; 150 бб.). Кніжка выйшла пад рэдакцыяй праф. Ю. Луцкага, выкладчыка Таронтаўскага ўнівэрсытэту, у выдавецтве Mosaic Press, P. O. Box 1032, Oakville, Ontario, Canada. Апрача беларускае літаратуры, кніга знаёміць зь літаратурамі армянскай, латыскай, татарскай і ўкраінскай. Уступны артыкул да кнігі напісаны праф. Луцкім. У канцы кнігі пададзеныя статыстыка друку й бібліяграфія англамоўных выданьняў пра кажную зь літаратараў. Цана кнігі — 4.95 дал. (у мяккім пераплёце), 9.95 дал. (у цьвярдым). Гэта, як адзначана на вокладцы кнігі, „першае навуковае выданьне ў ангельскай мове пра мала ведамыя на Захадзе нерасейскія літаратуры Савецкага Саюзу". „За маналітным фасадам, — кажацца там-жа, — схавныя сілы нацыянальна-культурных асьпірацыяў і агульна-мастацкіх вартасьцяў, ня скованых русыфікацыяй і сацыялістычным рэалізмам".

**Новы,, сёмы ўжо, зборнік паэзіі Рыгора Крушыны — „Сны і мары"** — толькі што выйшаў з друку (112 бб.). У кароткім уступным слове аўтар піша пля калясычныя формы паэзіі ў беларускай літаратуры. „Але шмат якія формы паэзіі, — кажа ён, — аж да гэтага часу засталіся някранутымі . . . Я пастараўся ў кнізе ‚Сны і мары', паводля сваіх магчымасьцяў, даць прыклады ня толькі клясычных, а й розных іншых формаў". Цана кнігі — 3 дал.

**У Нью Ёрку пачала выходзіць новая газэта „Час".** Газэта ў ангельскай і беларускай мовах, ілюстраваная. Першы нумар, датаваны кастрычнікам, мае 8 балонак. „Заданьнем газэты — кажа рэдакцыя „Часу", — у першую чаргу будзе інфармаваць англамоўны сьвет зь беларускай праблематыкай, а таксама інфармаваць беларускае грамадзтва аб сацыяльна-грамадзкіх і палітычных праблемах ягонага жыцьця". Зьмест першага нумару: ілюстраваная хроніка зь дзейнасьці Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня й Фэдэрацыі нацыянальных групаў Рэспубліканскае партыі, а таксама жыцьця парахвіяў БАПЦ; верш Натальлі Арсеньевае „На 25-я ўгодкі БАЗА", артыкулы інж. М. Г. „Пэрманэнтны крызіс сельскае гаспадаркі ў БССР", М. Харошкі — „Пётра Крэчэўскі", навіны, рэкляма. Цана нумару — 50 цэнтаў, падпіска на год — 5 дал. Адрыс рэдакцыі: The Byelorussian Times, P. O. Box 141, Whitestone, N. Y. 11357. Выдавец др. Р. Гарошка.

**Пра Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву** падаецца ў артыкуле праф. Томаса Бэрда „Агляд Праваслаўя, 1974 год". Артыкул зьмешчаны ў другім сёлетнім нумары амэрыканскага рэлігійнага часапісу „Дыяканія" (гл. бб. 147-148, 163, 167). Там-жа (бб. 185-187) зьмешчаны мэмарыял да Задзіночаных Нацыяў былога савецкага іншадумца Краснова (Левіціна) пра рэлігійны перасьлед на Ўкраіне й Беларусі.

**У канцэнтрацыйных лягерох на Беларусі шмат зьняволеных за рэлігійныя й палітычныя пераканьні.** У сьпісе 123-х вязьняў, зробленым паводля дадзеных сваякоў зьняволеных Евангельскіх Хрысьціянаў Баптыстыхх (сьпіс датаваны студзенем 1975 году й апублікаваны ў часапісе „Вестник РХД", № 115, бб. 227-233), адзначана, што некаторыя із зьняволеных знаходзяцца ў лягерох у Гомелі (жаноцкі лягер узмоцненага рэжыму), Менску (агульны лягер), у Івацэвічах (суровага рэжыму) і Воршы (суровага рэжыму). Не ўва ўсіх выпадках падаецца, дзе хто сядзіць, падаецца аднак, што ў Івацэвічах зьняволены Арцюх Уладзімер Андрэевіч, у Воршы — Арцюх Пётра Андрэевіч, у Гомелі — Каржанец Лідзія Аляксандраўна й Масюк Ніна Фамінішна, у Менску — Русавук Андрэй Пятровіч.

**Артыкул др. В. Кіпеля пра пачаткі беларускае эміграцыі у ЗША** быў выдрукаваны ў сёлетнім 10-м нумары газэты „Этнік Амэрыкен Ньюз", што выходзіць у гор. Пітсбургу ў штаце Пэнсыльванія.

**У Беларускім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры** 29 кастрычніка сёлета зь ініцыятывы Штатнае Фэдэрацыі Рэспубліканскіх Нацыянальных Групаў адбылося спатканьне з рэспубліканскімі кандыдатамі гэтае выбарчае акругі. Прамоўцамі на сустрэчы былі праф. Д. Газнэрс і госьць з Вашынгтону, сябра Цэнтральнага Камітэту Рэспубліканскае партыі й дырэктар Аддзелу Нацыянальнасьцяў — сп. Джэй Немчык.

**У працы рэгіянальнае канфэрэнцыі Дзяржаўнае Камісіі для адзначэньня 200-годзьдзя Задзіночаных Штатаў,** што адбылася ў НьюЁрку 17. XI. 75., г., ад беларускае нацыянальнасьці ўзяў удзел др. Вітаўт Кіпель.

**„Даведнік этнічных арганізацыяў штату Нью Джэрзі"** складаецца цяпер Міжнародным Камітэтам ньюджэрзійскае Камісіі для адзначэньня 200-годзьдзя Амэрыкі. Укладальніца даведніка, сп-ня Зора Кіпель, зьвярнулася нядаўна з анкетай і лістом да ўсіх арганізацыяў штату, каб падалі пра сябе патрэбныя дадзеныя. Трэба спадзявацца, што ўсе беларускія арганізацыі сваечасова адашлюць апытальнік, каб гэтым забясьпечыць сабе месца ў даведніку, які будзе шырака выкарыстоўвацца пры розных нагодах. Пісаць на адрыс: Mrs. Zora Kipel, 230 Springfield Ave., Rutherford, N. J. Tel.: (201) 933-6807.

**Прадстаўнікі ад беларускае нацыянальнасьці на ўрачыстасьці адчыненьня Музэю Іміграцыі на Эліс Айлэнд** („Абтэк Сьлёзаў") былі др. В. Кіпель і сп-ня Зора Кіпель. Урачыстасьць адбылася з удзелам прадстаўнікоў Дзяржаўнага Дэпартамэнту ЗША, Дырэкцыі Нацыянальных Паркаў ды губэрнатара штату Нью Джэрзі Брэндана Бэрна. На Эліс Айлэнд маюць быць адчыненыя павільлёны нацыянальных групаў, што праяжджалі тудою, імігруючы ў Амэрыку.

**Вольга Корбут хоча быць актрысай,** як падала ньюёркаўская газэта „Дэйлі Ньюз" (26. XI. 75). Вестка ўзятая з газэты „Правда", у якой, піша „Дэйлі Ньюз", было зьмешчанае „нязвычайна шчырае" інтэрвію з Вольгай Корбут.

**Беларускі савецкі ансамбль „Песьняры"** быў двойчы паказаны на ньюёркаўскім тэлебачаньні, у праграме „Эй-Эм Амэрыка" (Ранішняя Амэрыка) тэлестанцыі Эй-Бі-Сі (7-ы канал). На працягу тыдня ад 17-га лістапада ў праграме гэтай перадаваліся рэпартажы пра Савецкі Саюз, сфільмаваныя пераважна ў Маскве. У сваім выступленьні „Песьняры" выканалі колькі беларускіх народных песьняў.

**240 тысячаў палітіфарматараў і агітатараў** дзейнічаюць цяпер на Беларусі, паводля верасьнёўскага нумару часапісу „Каммунист Белоруссии" (№ 9, б. 16).

**Калгасьнік на Беларусі аддае на харчы,** паводля таго-ж нумару „Коммуниста Белоруссии" (б. 18), 43 працэнты свае агульнае сумы выдаткаў.

**Абраз мастака Уладзімера Шыманца** "Paysage Bielorussien" — „Беларускі краявід" — рэпрадукаваны ў вялікім парыскім інтэрнацыянальным альбоме-каталёгу мастацтва „Annuaire de L'Art International" par Patrick Sermadiras. Paris, 1975-1976 (б. 664). Намаляваная на абразе, алейнымі хварбамі, царква ў вёсцы Засульле на Стаўпеччыне.

**Пра рэлігійнае жыцьцё ў Гомелі зьмешчаны ілюстраваны артыкул пратарярэя Д. Абрамцава** ў амэрыканскім часапісе "One Church" (Адзіная Царква), (№ 4 за 1975 год 156-162).

## ПАДЗЯКА

Усім Высака Паважаным Грамадзянкам і Грамадзянам у Сыднэі, якія 15 лістапада сёлета прынялі ўдзел у вечары, прысьвечаным 40-м угодкам маёй лекарскай працы, складаю шчырую падзяку. Асабліва дзякую ініцыятарам урачыстасьці Спадарству А. Качаном і Спадарству М. Лужынскім за памешканьне для сьвяткаваньня й працу ў падрыхтаваньні пачастунку.

Падараваны мне сярэбраны кубак будзе служыць для ўжываньня напіткаў, каб я мог яшчэ дзясятак гадоў працаваць у сваёй прафэсіі для дабра нашай грамадзкасьці, а падараваная грамата ў лацінскай мове пабуджае мяне да далейшага павышэньня майго мэдычнага ўзроўню.

Зь вялікай пашанаю

**Д-р Язэп Малецкі**

## ДЗЕНЬ УДЗЯЧНАСЬЦІ Ў КЛІЎЛЕНЬДЗЕ

Амэрыканскае сьвята Дзень Удзячнасьці ўвайшло ў традыцыю сьвяткаваньня ў парахвіі Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўленьдзе. Парахвіяне ўдзячныя за тое, што, перажыўшы Другую сусьветную вайну, змаглі прыехаць у Амэрыку, дзе ўладзілі сваё асабістае жыцьцё вельмі добра, заснавалі сваю Беларускую Аўтакефальную Царкву, свае грамадзкія арганізацыі ды маюць магчымасьць праводзіць культурную працу ў беларускай калёніі, а таксама навонкі. Сьвята гэтае адбываецца супольна заўсёды напярэдадні Дня Ўдзячнасьці, у нядзелю, бо ў чацьвер сьвяткуюць усе ўдома, запрашаючы адзін аднаго.

Гэтак сёлета парахвіяльная рада 23-га лістапада наладзіла абед Удзячнасьці. Распачалося сьвяткаваньне ў царкве пасьля сьвятое Літургіі. Мітрапаліт Андрэй сказаў зьместоўную пропаведзь на тэму дня, а пасьля адслужыў малебен удзячнасьці.

Падчас супольнага абеду старшыня парахвіяльнае рады прывітаў прысутных, падзякаваў жанчынам, за вельмі добрае прыгатаваньне абеду. Старшыня падкрэсьліў, што такія сьвяткаваньні як гэтае, іншыя ўгодкі ды выступы навонкі маюць вялікае значаньне ў беларускай калёніі і што дзякуючы гэткай супольнай дзейнасьці мы ўвайшлі ў гісторыю Кліўленду, бо ў 1975 г. выйшла ў унівэрсытэцкім выдавецтве кніжка „Этнічныя грамады ў Кліўленьдзе", у якой зьмешчаная гісторыя нацыянальнасьцяў Кліўленду.

Старшыня зьвярнуў увагу на новую нагоду ўвайсьці ў гісторыю Кліўленду — сьвяткаваньне 200-х угодкаў Амэрыкі. У гэтым сьвяткаваньні, сказаў ён, мы мусім узяць удзел як Амэрыканцы й Беларусы, усе разам.

Далей сьвяткаваньне працягвалася пад акампанімэнт акардыёну Ул. Літвінкі ў вясёлай атмасфэры з народнымі песьнямі.

**Абсарватар**

## ЗАМІЖ КВЕТАК НА СЬВЕЖУЮ МАГІЛУ СЬВ. ПАМ. МАТУШКІ ФІЛІМЭНЫ ВОЙТАНКІ

З глыбокім сумам даведалася я з газэты „Беларус" пра сьмерць сьв. пам. Матушкі Філімэны Войтанкі. Як жывая, Нябожчыца ўстала ў маёй памяці, тады калі цудам, хіба сам Бог прывёў да знаёмасьці із сьв. пам. Матушкай у 1945 годзе ў Заўльгаў, Нямеччына. Калі я вынішчаная фізычна й духова, з малым дзіцём на руках, ня ведаючы нямецкай мовы, прайшла пад градам бомбаў, агонь і дым пажараў усю Нямеччыну й апынілася ў сям'і Войтанкаў, дык Матушка Філімэна, як найлепшая родная маці, прыгарнула й падтрымала мяне ня толькі духова, але й матарыяльна, дык памяць пра яе я буду з пашанай насіць да самай сьмерці.

Сьв. пам. Матушка Філімэна ўзапраўды была Духовым Апякуном і ня толькі сваёй сям'і, але й усіх людзей, якіх яна спаткала на даўгой дарозе жыцьця.

Сьпі салодка Дарагая Маці Беларуска!

Вечная Табе Памяць!

**Галіна Трус-Трусаў**
**Францыя**

## ВЕЧАР ЭТНІЧНАЙ ПРЭСЫ

Вечар адбыўся 19-га лістапада ў Тароньце ў новым гатэлі „Прынц". Вечар гэты быў ушанаваньнем трох выдатных Канадыйцаў, асабліва заслужаных перад этнічнымі групамі, што выводзяцца з паняволеных народаў. Усе гэтыя тры Канадыйцы ўжо адыйшлі на пэнсіі. Сп. Дж. Ярэмка, Украінец з паходжаньня, больш за 25 гадоў быў паслом у Антарыйскім парлямэнце, у тым ліку 16 гадоў міністрам. Сп. Д. Гросман, Жыд з паходжаньня, таксама чвэрць стагодзьдзя быў антарыйскім паслом і міністрам. Сп. Г. Алан быў шэфам дэпартаманту Іміграцыі й Грамадзянства на Антарыё, і ён асабліва шмат дзе памог этнічным групам.

Сп. Маўко, старшыня Управы Фэдэрацыі Этнічнай Прэсы на Антарыё адчыніў вечар за банкетным сталом і папрасіў нашага Ўладыку, Яго Высакапрэасьвяшчэнства Япіскапа Мікалая, што сядзеў за пачэсным сталом, пачаць малітвай. Уладыка сказаў малітву „Ойча Наш" і паблагаславіў вячэру. Затым, пасьля тосту за Каралеву, пасьля вячэры, пачаліся прамовы пра заслугі ўшаноўваных трох людзей ды іхныя адказы на гэта.

Банкет трываў да 11-й гадзіны Ад „Беларуса" прысутнічаў сп. А Маркевіч, а гасьцём быў сп. К. Акула.

**Вечарына Самапомачы Беларусаў Ашавы** адбылася сёлета 18-га кастрычніка ў залі БРГЦ ў Тароньце. Гэта ўжо другая з чаргі такая імпрэза; адна адбылася ўвосень летась зь вялікім посьпехам. Гэтым разам да танцаў грала Ашаўская моладзь, а прысутныя госьці з Ашавы, Таронта, Гамільтону й Брантфарду добра пагулялі.

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА"

**За папярэдні пэрыяд (месяцы кастрычнік і лістапад) паступілі ў касу нашае газэты падпіска й наступныя ахвяры на Выдавецкі Фонд „БЕЛАРУСА":**

### 1. У КАСТРЫЧНІКУ

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Беларускае Жаноцкае Згуртаваньне ў Кліўленьдзе | $ 100.00 |
| 2. | Др Ул. Набагез | 100.00 |
| 3. | В. і М. М. | 20.00 |
| 4. | А. Ліхач | 20.00 |
| 5. | М. Латушкін | 20.00 |
| 6. | М. Жызьнеўскі | 10.00 |
| 7. | Я. Чарнэцкі | 10.00 |
| 8. | Г. Дубінін | 10.00 |

**Разам: $ 290.00**

**Б. Сабрана сп. Янкам Лукашэвічам (старшым) сярод Суродзічаў Кліўленду:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | К. Калоша | $ 60.00 |
| 2. | П. Б. | 30.00 |
| 3. | Я. Лукашэвіч | 15.00 |
| 4. | Я. Каваленка | 10.00 |
| 5. | В. Сьпічонак | 10.00 |
| 6. | М. Ягаўдзік | 10.00 |
| 8. | Ул. Дунец | 10.00 |
| 9. | Я. Раковіч | 10.00 |
| 10. | Я. Лукашэвіч малодшы | 10.00 |
| 11. | М. Гаўрылаў | 5.00 |
| 12. | Б. Семянчук | 5.00 |
| 13. | Т. Кананчук | 5.00 |
| 14. | А.Гарох | 5.00 |
| 15. | В. Лукашэвіч | 5.00 |
| 16. | А. Яраховіч | 5.00 |
| 17. | Я. Шымчак | 5.00 |
| 18. | В. В. | 5.00 |

**Разам: $ 205.00**

### II. КАНАДА:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Д-р Б. Рагуля | $ 120.00 |

### III. ШВАЙЦАРЫЯ:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Я. Лёчар | $ 10.00 |

### IV. ІНШЫЯ АПЛАТЫ:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | БІНіМ у Канадзе за клішы й абвесткі | $ 90.00 |
| 2. | М. Войтанка за клішу й кляпсыдру | 40.00 |
| 3. | І. Муха за клішу ў сямейную хроніку | 15.00 |
| 4. | Д-р В. Кіпель за абвестку | 15.00 |
| 5. | Парахвіяльная Рада ў Дэтройце за клішу | 15.00 |
| 6. | Архіяпіскап Мікалай за клішу | 20.00 |

**Разам: 195.00**

### V. КНІЖНЫ ФОНД

1. За прададзеныя 13 экзэмпляраў 3-га тому „Выбраных твораў" Максіма Гарэцкага ........... $ 65.00

**Усяго разам: $ 830.00**

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія „Беларуса" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**

### II. У ЛІСТАПАДЗЕ:

### I. ЗША:

**А. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | С. Шыкалюк | $ 25.00 |
| 2. | В. і М. М. | 25.00 |
| 3. | В. Кажан | 20.00 |
| 4. | Н. Кушаль | 20.00 |
| 5. | М. Тулейка | 20.00 |
| 6. | І. Каханоўская | 15.00 |
| 7. | А. Каптуровіч | 10.00 |
| 8. | П. Пецька | 10.00 |
| 9. | С. Стаськевіч | 10.00 |
| 10. | Н. Жызьнеўскі | 10.00 |
| 11. | П. Нягода | 10.00 |
| 12. | Ч. Найдзюк | 10.00 |
| 13. | Ю. Андрусышына | 10.00 |
| 14. | Л. Норык | 10.00 |
| 15. | Я. Чарнэцкі | 10.00 |

**Разам: $215.00**

**Б. Заплачана сябру Рэдкалегіі „Беларуса" сп. Бран. Даніловічу**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | П. Кулеш | $ 20.00 |
| 2. | В. Арцюшэнка | 20.00 |
| 3. | А. Непеін | 10.00 |
| 4. | Ф. Родзька | 10.00 |
| 5. | Л. Клейнбах | 10.00 |
| 6. | А. Губэрт | 10.00 |
| 7. | Л. Высоцкі | 10.00 |
| 8. | А. Кузьміч | 10.00 |
| 9. | П. Талмачэвец | 10.00 |
| 10. | К. Барысавец | 10.00 |
| 11. | А. Белаед | 10.00 |
| 12. | Я. Чыгіровіч | 10.00 |
| 13. | Ф. Родзька (другі раз) | 10.00 |
| 14. | В. Сьліўка | 10.00 |
| 15. | В. Пеляса | 10.00 |
| 16. | Я. Азарка | 10.00 |
| 17. | С. Гутырчык | 10.00 |
| 18. | Я. Л. | 2.00 |

**Разам: $ 192.00**

**В. Заплачана сябру Рэдакцыйнае Калегіі „Беларуса" сп. Андрэю Стрэчаню Беларусамі Кліўленду:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | Андрэй Стрэчань | $ 20.00 |
| 2. | В. Семянчук | 20.00 |
| 3. | А. Шостак | 10.00 |
| 4. | У. Дунец | 10.00 |
| 5. | М Махахей | 10.00 |
| 6. | К. Калоша | 10.00 |
| 7. | а. М. Страпко | 10.00 |
| 8. | А. Кананчук | 10.00 |
| 9. | К. Мэтальыцкі | 10.00 |
| 10. | Я. Каваленка | 10.00 |
| 11. | Я. Раковіч | 10.00 |
| 12. | К. Каляда | 10.00 |
| 13. | В. Сьпічонак | 10.00 |
| 14. | А. Яраховіч | 10.00 |
| 15. | А. Дурэйка | 10.00 |
| 16. | В. Сяргіевіч | 10.00 |
| 17. | З дэталічнай прадажы газэты | 4.00 |

**Разам: $184.00**

**Г. Прыслана беспасярэдня ў Рэдакцыю:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | К. Калоша | $ 20.00 |

### II. КАНАДА:

**А Заплачана прадстаўніку газэты „Беларус" у Канадзе сп. Антону Маркевічу:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Харавец | $ 10.00 |
| 2. | П. Канцавы | 10.00 |
| 3. | Р. Беразоўскі | 10.00 |
| 4. | В. Варанэцкі | 10.00 |
| 5. | А. Ціхановіч | 10.00 |
| 6. | М. Кулеш | 10.00 |
| 7. | Ул. Целеш | 5.00 |
| 8. | З дэталічнай прадажы газэты | 2.00 |

**Разазм: $ 67.00**

### III. АЎСТРАЛІЯ:

**А. Заплачана сп-ні Аўгені Каранеўскай як прадстаўніку газэты „Беларус" у Сыднэі: улучна з аплатай за калядныя віншаваньні:**

| | | |
|---|---|---|
| 1. | А. Каранеўская | $ 20.00 |
| 2. | В. Русак | 15.00 |
| 3. | А. Бакуновіч | 10.00 |
| 4. | М. Бакуновіч | 10.00 |
| 5. | А. Васіленя | 10 00 |
| 6. | А. Воўк-Левановіч | 10.00 |
| 7. | С. Яраховіч | 10.00 |
| 8. | Сп-ва Хаванскія | 10.00 |
| 9. | В. Ліпскі | 10.00 |
| 10. | М. Лужынскі | 10.00 |
| 11. | О. Талмачэўская | 10.00 |
| 12. | А. Булаўскі | 5.00 |

**Разам: $ 130.00**

Па адлічэньні коштаў мясцовай паштовай перасылкі, Рэдакцыя атрымала ў ЗША суму: **$ 122.02**

### IV. ІНШЫЯ АПЛАТЫ:

| | | |
|---|---|---|
| 1. | К. Калоша зварот коштаў за клішы | $ 20.00 |
| 2. | Я. Азарка за сям. хр. і клішу | 20.00 |
| 3. | П. Кажура | 20.00 |

**Разам: $ 60.00**
**Усяго разам: $ 870.02**

### V. КНІЖНЫ ФОНД

За прадажу сп- няй Аўгеняй Каранеўскай 3-га тому „Выбраных твораў" Максіма Гарэцкага атрымана $ 50.00, якія не ўваходзяць у грошы газэты „Беларус", а фігуруюць на асобным рахунку.

**Усім тым, што прыслалі грошы, Рэдакцыйная Калегія газэты „Беларус" выказвае шчырае беларускае дзякуй!**